**Літаратурная Беларусь**

Выпуск № 7 (203) (ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





# Утрымаць душу!



Віктар КАЗЬКО

Хоць кітайцы і гавораць: не дай вам Бог жыць у часы перамен, здаецца, зусім нядаўна нам актыўна даводзілі: таленты абуджаюцца і найбольш ярка і плодна расцвітаюць на пераломе, на стыках эпох — у час крутой змены пакаленняў. Усё старое скідваецца з воза гісторыі, бяруць сілу і лейцы ў рукі маладыя пачаткі.

Мо і таму ў свой час на зломе эпохі малады Аляксандр Фадзееў у адным са сваіх твораў напісаў: «У пакой зайшоў стары гадоў сарака»… Крыху пазней, праўда, папраўіўся: «гадоў пяцідзесяці».

Калі ж увабралася ў сілу і заняло ўладныя высоты ўсё маладое, яркае і таленавітае на зломе і ў росквіце застойнай, як пазней пачалі гаварыць, стабільнасці, адпаведна было яно амніставана і пасунута: сярэднім узростам сталі 70 гадоў.

Сёння на чарговым, а мо і постчарговым пераломе эпохі ці не большасць нашых літаратараў можна назваць людзьмі сярэдняга ўзросту, а то постсярэдняга. Вось такія вынікі нашай зацягнутай гульні з гісторыяй, часам і ўзростам. Мастацкай гульні ў пацеркі — дэманстрацыя вынаходлівасці нашага розуму, яго здольнасці да самападману. Таму што жывем мы ў час непадробнага самаспакушэння, калі не толькі апазіцыі, але і ўсім нам, усяму народу згодна з найноўшымі ўладнымі пастановамі, дырэктывамі, законамі амаль загадана добраахвотна садзіцца ў турму. І зусім не за нейкія парушэнні, дзейнасць, а нават сумненні! Бо мы вінаватыя ўжо ў тым, што жывем, дыхаем… Абсалютная абсурднасць, падманная прывіднасць нашага жыцця і ладу вымусілі мяне выказацца. У сучасных гульнях, гульнях беларускіх дурняў і ў беларускага дурня, як пісала ў «жаноцкім рамане з гноем» Аксана Спрынчан, удзельнічаем, вымушаны ўдзельнічаць і мы. У тым і сутнасць «падкіднога»: падкідваць нешта і некаму. І падкідваючы, наступаючы ці абараняючыся, мы павінны думаць пра тое, што застанецца ўсё ж пасля гэтай высокаінтэлектуальнай гульні. Пра наш стан, хаця б метафізічны пасля заканчэння яе, стан сярэдняга ўзросту і тых, хто падменіць іх у новых гульнях у новага «падкіднога».



Калаж Караса Ёната

Як не страціць метафізічнае і сапраўднае, прыроднае і прыроджанае, карэннае і карнявое, дзякуючы чаму беларус спакон веку гуляе амаль з усім светам? Як захавацца і працягнуць сілу і моц нашай наканаванасці, нарачонасці і прызначэння на зямлі?

Некалі ў часопісе «Дружба народаў» была надрукавана мая аповесць «Прахожы». Надрукавана і надрукавана. Мне заўсёды сорамна перачытваць напісанае мной. У свой час я так і не разгарнуў часопіс. Зірнуў на аповесць, перабіраўшы архіў… Здзівіўся пасляслоўю Льва Аннінскага. Вось яно, прабачце, скарочанае і без перакладу: «…После пятилетнего госразвода беру в руки новую повесть Козько с щемящим чувством: родные, ну как вы там, за кордоном? Суверенность гуляет по страницам повести, как кот (кот — это главный герой), сама по себе… На земле перегородок понаделали, а в головах перегородки попадали: все смешалось… С сочувствием слежу, как отделившийся брат пускает в свой новый дом кота… Возврат к природе, к началам, к истокам. По Руссо… В смутное, неопределенное время надо строиться. Есть пристанище, нет пристанища — совершенно не в этом дело. А дело в том, что смута — страшное время. А в страшное время надлежит строиться. Чтобы не свихнуться… Может, так: звезда Полынь положила конец нашему расширяющемуся свинарнику. А может, наоборот, в самом свинарнике вонь дошла до небес. И Чернобыль — следствие конца, и начало, что по Руссо, что по Дарвину — одно. Однако между началом и концом душу удержать надо…».

«Удержать» душу! Утрымаць душу!

На вялікі жаль, у нашай літаратуры не атрымалася. «Выгнанне» (прынамсі, метафізічнае, па сведчанні крытыка Ірыны Шаўляковай), для беларускага літаратара найноўшае пары — стан натуральны. Беларускі літаратар, творчае сталенне якога прыпадае на цяперашні этап так званай новай літаратурнай сітуацыі, выгнаннікам не становіцца, а «нараджаецца».

Інакш аб'ектыўна і суб'ектыўна не магло і не можа быць. Выгнанне, вытручванне беларускай душы, беларушчыны пазбаўляе не толькі ў творчасці, але і ва ўсіх іпастасях нашага развіцця і існавання плёну — творчасці.

Апатычны народ цяжарны апатычнымі нашчадкамі. Маладыя творцы больш і часцей збягаюць, знаходзяць прытулак у віртуальнай рэальнасці. А як інакш, калі выгнанніцтва — справа рэальная? І яна сёння ўзаемная: ўласцівая літаратуры маладой і літаратуры сталага і постсталага ўзросту. Таму з яе амаль цалкам знікла надзённае, рэальнасць. Альбо тое, што ў наш час называлі грамадскім гучаннем.

Найбольш гэта тычыцца, адчуваецца ў маладой паэзіі. Дарэчы, мо таму ў яе сёння пераважна жаночы, а праўдзівей дзявочы твар і столькі гламуру…

Што тычыцца літаратуры старэйшага пакалення — я зноў вяртаюся да Ірыны Шаўляковай: вострае адчуванне яго прадстаўнікамі сваёй «адчужанасці» ў хаосе літаратуры і культуры так званага пераходнага перыяду, на першы погляд, лагічна вытлумачваецца «ўзроставым абвастрэннем, калі мінулае — асабістае і мастацкае (творчае) — успрымаецца больш сапраўдным, больш жывым за сучаснасць.

З гэтага пункту гледжання добраахвотнае "выгнанніцтва" многіх старэйшых беларускіх пісьменнікаў паўстае не выракам, а выраем, ратавальнымі ўцёкамі ў віртуальную маладосць ад рэальнага, фізічна адчувальнага нябыту». Жорстка сказана, вылеплена. Але гэта так, так.

І што здзіўляе: такія процілеглыя тлумачэнні двух пакаленняў, як гэтыя процілегласці, супадаюць, сыходзяцца.

Сапраўды, чары выгнанніцтва (сапраўднага і метафізічнага) не такія ўжо і «бяскрыўдныя». І сёння, як ніколі, нам трэба думаць пра шляхі вяртання.

Трэба думаць, як вярнуць і «удержать душу».

Як утрымаць душу.

Гэта наша, па запавету Васіля Быкава, доўгая дарога дадому.

Да сябе.



Фота phonoteka.org

# Споведзь самотніка

***10 ліпеня споўнілася 70 гадоў адоранаму паэту і літаратурнаму перакладчыку Васілю САХАРЧУКУ (1953—2003).***

***Споўнілася б… Але яго ўжо два дзясяткі тых гадоў няма на нашым турботным свеце.***

***Васіль Якаўлевіч нарадзіўся ў вёсцы Свадзьбічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Настаўнічаў у школах Любанскага і Бярозаўскага раёнаў. З 1979 года жыў у горадзе Жабінка, дзе працаваў карэспандэнтам і адказным сакратаром мясцовай раённай газеты «Сельская праўда».***

***З вершамі выступіў у 1971 годзе ў калектыўным зборніку «Універсітэт паэтычны». Аўтар кніжак паэзіі «Зорны мост» (у калектыўным зборніку «Крыло», 1984), «Даніна» (1988), пасмяротнага зборніка «Мой вечны бор» (2004).***

***Заўчасна пайшоў з жыцця 26 студзеня 2003 года.***

***«Літаратурная Беларусь» публікуе словы-згадкі блізкіх сяброў юбіляра, а таксама — нізку вершаў самога паэта.***



Васіль Сахарчук

## Дапамог успомніць урокі роднай мовы

**Іван ДАЦКЕВІЧ**

Пачну з таго, што вершаскладаннем я займаўся з дзіцячых гадоў. Таму ў юначым узросце, трапіўшы па волі лёсу на Урал, у Перм, ахвотна ўліўся ў літаб'яднанне «Маяк», што гуртавалася пры газеце «Большая Кама». Але колькі б чалавек на чужыне ні жыў, як бы там яму добра ні было, а родныя мясціны ўсё-такі неадольна клічуць вярнуцца да іх, спрадвечных. Так было і са мною: мая любая Жабінкаўшчына і за тысячы кіламетраў часта прыходзіла да мяне ў снах, неадчэпна гукала, цягнула да сябе, на адлегласці натхняла маю самотную душу. І ў 1989 годзе я назаўсёды развітваюся з Уралам ды вяртаюся ў Беларусь.

Апынуўшыся на радзіме, паспрабаваў наладзіць творчыя сувязі з рэдакцыяй абласной газеты «Заря». Мікалай Аляксандраў, намеснік галоўнага рэдактара, паэт і эсэіст, пачытаў мае творы, пахваліў іх. Але, на вялікі жаль, у хуткім часе яму давялося пакінуць не толькі пасаду, але і саму абласную газету.

З тымі людзьмі, якія рыхтавалі літаратурную старонку пасля Мікалая Аляксандрава, у мяне добрых адносін не склалася. Яны палічылі мае вершы непрыгоднымі да друку…

А вось у жабінкаўскай «Сельскай праўдзе» мае вершы былі ахвотна прыняты і высока ацэнены Васілём Сахарчуком. Ён працаваў у газеце спачатку загадчыкам аддзела, затым, да самай сваёй трагічнай гібелі, — адказным сакратаром. Заадно гэты таленавіты паэт і добразычлівы чалавек узначальваў таксама літаб'яднанне «Плынь», якое і цяпер актыўна дзейнічае пры газеце.

Гэта ён, Васіль Сахарчук, адкрыў незвычайнага паэта-самародка Васіля Гадульку з вёскі Федзькавічы і ўвесь час падтрымліваў яго, турбаваўся за яго творчы і чалавечы лёс, клапаціўся аб выданні ягонага зборніка, якога, на жаль, яны так і не дачакаліся…

Нягледзячы на тое, што Васіль Сахарчук быў членам Саюза пісьменнікаў, выдаваў адзін за адным зборнікі сваіх вершаў, а мы з Гадулькам мелі толькі ранг аматараў паэзіі, ён ніколі не зазнаваўся, не выяўляў перад намі сваёй перавагі. Размаўляў Васіль толькі на беларускай мове, таму спачатку мне было цяжкавата прызвычаіцца да яго гаворкі, бо за трыццаць тры гады свайго жыцця ў Расіі я не чуў ніводнага беларускага слова. Але пад уплывам Сахарчука мне прыйшлося ўспомніць урокі роднай мовы, якія я атрымліваў у свой час у Жабінкаўскай школе. На нашу агульную радасць, вельмі хутка справа дайшла да таго, што я не толькі пачаў размаўляць з Васілём па-беларуску, але і напісаў з дзясятак беларускамоўных вершаў.

Асаблівасцю нашых адносін было тое, што мы доўгія часы гутарылі з ім на высокія духоўныя і складаныя філасофскія тэмы. У вядомым Пермскім анамальным трохкутніку я назіраў і за НЛА, і пабачыў шмат іншых незвычайных з'яў. А на Урале я зразумеў мізэрнасць і недасканаласць тых ведаў, што атрымлівае чалавек на працягу свайго зямнога жыцця…

Мой светапогляд прыцягваў увагу Сахарчука. Для яго мае доказы былі настолькі нечаканымі адкрыццямі, што ён ад здзіўлення шырока расплюшчваў вочы і рэдка калі пярэчыў. Іншыя ж, пачуўшы мае меркаванні, спалохана хапаліся за галаву і збягалі прэч. А справа ў тым, што свядомасць людзей такая нікчэмная, такая прыгнечаная, прыціснутая нейкім нябачным прэсам да зямлі, што ім боязна ўзняцца, каб нешта разгледзець навокал ды зразумець.

Васіль Сахарчук не быў баязлівым чалавекам. Хутчэй — наадварот. Яго мужнасць і непакорлівасць дапамагалі яму адстойваць сваю чалавечую годнасць, свае погляды. Маю духоўную філасофію ён не мог цалкам успрыняць, не быў заўзятым атэістам, але і рэлігійных канонаў не ведаў. Царкоўных кніг ён не чытаў. Дый дзе было ўзяць такія кнігі?! Усе кнігарні і бібліятэкі былі завалены навуковым камунізмам, тамамі Леніна. А чытаць духоўнае савецкім людзям забаранялася…

Чым кіраваўся Сахарчук — не ведаю, але вершы на духоўную і філасофскую тэмы рыхтаваў да друку безадмоўна, за што я ўдзячны яму да гэтага часу.

Ён ніколі не зайздросціў ні чужому таленту, ні чужому поспеху. У маёй памяці ён застаўся назаўсёды чулым, добразычлівым чалавекам і таленавітым паэтам.

## Далучанасць да споведзяў нечужых

**Алесь КАСКО (1951—2017)**

…Да перакладаў Васіль Сахарчук ставіўся з усёй адказнасцю. Аднак у яго ні разу, няхай чытач паверыць на слова, не ўзнікала памкнення пераўзысці ў майстэрстве арыгінальнага аўтара, што, урэшце, таксама ўваходзіць у разуменне адказнасці. Не падражаў ён і перакладчыкам, вольным стылізаваць верш «пад сябе» ці аж на сотню радкоў павялічваць паэму, а то і дапісваць цэлы раздзел да яе. «Я спрычыняюся да аўтарскіх споведзяў, — казаў калісьці Васіль, — пранікаюся імі, але не забываю, што гэта ўсё-такі іх споведзі, не чужыя мне, ды — іх».

Станаўленне Сахарчука-перакладчыка пачалося ў гады яго вучобы на філфаку БДУ. Акурат — з вывучэння балгарскай мовы і знаёмства з балгарскай літаратурай; у яго перакладных паэтычных твораў з яе непараўнана больш, чым з якой-небудзь іншай.

Далучанасць да балгарыстыкі, чаму ў немалой ступені спрыяў універсітэцкі настаўнік і старэйшы сябар Ніл Гілевіч, абудзіла цягу паэта да перакладчыцкай дзейнасці наогул. Спачатку на ўзроўні асобных твораў асобных аўтараў. Штуршком да працы нярэдка быў звычайны рэдакцыйны заказ; гэтак, напрыклад, у альманаху «Братэрства» з'явіліся перакладзеныя ім для творчага конкурсу «Веснавая навальніца» Ф. Цютчава і «Ветразь» М. Лермантава, у часопісе «Крыніца» — некалькі вершаў В. Стуса як штрыхі да аўтарскага партрэта. Але ўжо з гэтых імёнаў відно, што выбар не зусім выпадковы (паэт, урэшце, мог бы ад заказу адмовіцца).

Той, для каго пераклады — не асноўны «хлеб», бярэцца найперш за блізкі яму верш блізкага паэта, што і назіраем у Васіля Сахарчука. Глыбінёй паэтычных перажыванняў і пластычнасцю формы прывабілі яго вершы балгараў А. Далчава, Х. Радзеўскага, Т. Клісурава ды іншых, рускіх Д. Самойлава і Ю. Левітанскага, украінцаў І. Чарнецкага і В. Гэя… Яны ў той ці іншай ступені рабіліся «суаўтарамі» творчасці самога В. Сахарчука, асабліва ў апошні яе перыяд — перыяд напружаных пошукаў, яскрава адлюстраваных у выніковым, пасмяротным, зборніку (у тым ліку і выбраных перакладаў) «Мой вечны бор».

Самы адметны, наватарскі твор тут — «Споведзь самотніка», прамоўленая аўтарам ад імя фізічна адсутнага сябра (адсюль нечаканы жанр — вершанемы). Узнікненню аўтарскай ідэі і яе арыгінальнаму ўвасабленню далі імпульс сумна-іранічныя радкі сучаснага балгарскага майстра асацыятыўнай мініяцюры З. Кісёва:

*Надыдзе дзень,*  
*калі я скончу свой верш.*  
*Усё ў ім будзе строга*  
*і прыгожа —*  
*ні слоў, ні гукаў…*  
*…чысты няспісаны аркуш,*  
*можа, гэта і ёсць*  
*мой самы завершаны верш!*

Іранізм Васілём Сахарчуком пераўтвораны ў трагізм, а чыстыя аркушы, перакладзеныя ім «з мовы ветру на мову людзей», сталі лістамі з таго свету. Як выявіў лёс — і яго асабістымі лістамі.

Зусім не выпадкова ў спадчыне Сахарчука-перакладчыка аказаўся самы знакаміты верш Эдгара По «Крук» з яго містычным рэфрэнам-закляццем «nevermor», літаральна — «ніколі больш», такім загадкавым, што многія іншыя перакладчыкі пакінулі гэтае слова без адпаведніка. Пераклад Васіля Сахарчука, як здаецца, не без выдаткаў у перадачы арыгінала, дзе ўсё з'яўляецца глыбока змястоўным. Аднак галоўнага перакладчык дасягнуў: захаваў безумоўны прынцып Эдгара По — прынцып адзінства ўражання, які дазваляе трымаць чытача ў напружанні ад першых да апошніх радкоў…

*(Друкуецца ў скароце.)*

## КУКУЛКА ХУТКА ВЕК МОЙ АДКУЕ…

Васіль САХАРЧУК

### Прычасце

*Васілю Гадульку*

*Бягуць машыны па шашы.*  
*Сабака вые каля плота.*  
*А ён сядзіць.*  
*На дне душы*  
*гарчыць цыкутаю самота.*

*Адзін.*  
*Пакінуты няўзнак*  
*сябрамі, роднымі, каханай.*  
*Сядзіць, нібы пустэльны рак,*  
*самім сабой абрабаваны.*

*Надзейна спалены масты.*  
*Апошні ў памяці дыміцца.*  
*А ён сядзіць, нібы застыў*  
*і прыкіпеў да палавіцы.*

*У позірку мільгнуў наіў,*  
*дзе з прасветленай душою*  
*устаў і да краёў наліў*  
*у келіх жоўтага напою.*

*Устаў і нерухома стаў,*  
*і з ціхай думкаю пра шчасце*  
*ён пачастунак свой прыняў,*  
*нібы царкоўнае прычасце.*

*Ён выпіў келіх свой нагбом.*  
*Ужо на золак стала брацца.*  
*І, як дзіця, забыўся сном.*  
*Заснуў,*  
*каб больш не прачынацца.*

### Начная акварэль

*У цёмна-блакітнай імгле надвячорка*  
*твой позірк мігцеў, бы зялёная зорка.*  
*А ноччу, калі ты прымружыла вейі,*  
*убачыўся ў ім мне пыл снежнай завеі.*  
*Да самае раніцы зорка мне ззяла*  
*і белая замяць гула, не сціхала.*

### Вандроўнік

*Міколу Купрэеву*

*Прыйшоў паэт — забілі ў ладкі,*  
*У хорам славы прывялі,*  
*А ён ад славы без аглядкі —*  
*Упрочкі па зямлі.*

*Руку згрубелую узброіў*  
*Крывым бярозавым кійком,*  
*Звязаў у вузел вершы-мроі*  
*І назаўжды пакінуў дом.*

*Лясы шумяць… Вітае поле…*  
*Сярод людзей нібыта госць…*  
*На светла-думным донцы долі*  
*Цвіце ўспамін пра маладосць.*

*На лёс не скардзіцца ніколі,*  
*Хаця туга жыве ў вачах.*  
*Легендай стаў, але спатолі*  
*Не даў яму вандроўны шлях.*

*Ідзе з кійком пад родным небам —*  
*І не манах, і не святы —*  
*Дзяліцца думкамі, як хлебам,*  
*І жыць з людскае дабраты.*

***

*Дзён мінулых лістотай апалай,*  
*Золкім снегам ў ляхі замяло,*  
*Але ў сэрцы ізноў ажыло*  
*Зорных мар і ўспамінаў нямала.*

*Рэшткі крыўды распаліся ў тло,*  
*Пасвятлеў далягляд, і прастора*  
*Усміхаецца мне ясназора.*

*Пачуццё замірэння прыйшло.*  
*І не страшны мне цемра і гора —*  
*Сэрца знойдзе і ў цемры святло.*

***

*Зноў ад жыцця ў паэзію ўцяку,*  
*Якой каторы год ніхто не чуе.*  
*Кукулка хутка век мой адкуе,*  
*І перайду я вечную раку.*

*Няма ні слёз, ні смутку, ні тугі,*  
*Даўно адвык і скардзіцца, і плакаць.*  
*Якая вольнасць у сузор'і Рака,*  
*Якія вузкія зямныя берагі…*

*І ўсё-ткі веру: гэты час міне*  
*І сонца ў змрочны дзень яшчэ пабачу,*  
*Вярну тугу, ад радасці заплачу*  
*І светлы смутак ахіне мяне.*

# Жыццё нялёгкае, але шчаслівае

Алесь РАТКЕВІЧ

***Сёлета нашай герaіні Раісе Якаўлеўне Вішнеўскай (Коўган) споўнілася дзевяноста. Падчас сустрэчы яна перайшла да ўспамінаў пра мінулае, даваеннае калгаснае жыццё...***



Сямейнае фота. Злева Лізавета Сцяпанаўна з Рэнькай, зверху Пётр, Якаў Карпавіч з Лідзіяй, унізе Уладзімір. (1934 г.)

## Пра галоднае маленства і калгас

Нарадзілася Раіса Якаўлеўна ў вёсцы Пацічова на Смалявіччыне ў вялікай сялянскай сям'і Якава Карпавіча (1898 г.н.) і Лізаветы Сцяпанаўны (1900 г.н) Коўганаў. Калі пачалася мабілізацыя на Другую сусветную, нараджэнне сёмага дзіцяці ў Коўганаў уратавала бацьку ад адпраўкі на фінскі фронт. З таго моманту Раіса Якаўлеўна нядрэнна памятае, што адбывалася ў іх жыцці.

Бацька працаваў у калгасе. Маці — таксама, не звяртаючы ўвагі на амаль беспрапынную цяжарнасць. Імкнулася выпрацоўваць 280 нарматыўных працадзён. Пасля кожных родаў мела месяц перапынку і зноў ішла ў поле. Мусіла адпрацаваць шэсць дзён у калгасе, а ў нядзелю — на сваіх шасцідзесяці сотках. Сеялі сабе ўсяго пакрыху: бульбу, збожжа, каноплі. Грошай не было. У калгасах існавала свая валюта — працадзень. За яго атрымлівалі дзвесце грамаў зерня «з вуха». Так называлі апошні адсеў збожжа з асцюкамі і саломай з сартавальнага агрэгата — арфы. Ды нават спечаны з такога зерня хлеб для сялян падаваўся дэлікатэсам.

— *А зараз з болем у сэрцы назіраю, як людзі цэлымі боханамі хлеб ды батоны ў сметніцу выкідаюць*, — кажа, уздыхаючы, суразмоўца. — *Мы ў той час кожнай скарыначцы рады былі!*

За ўдзел калгасніка ва ўборцы ўраджаю бульбы, буракоў, лёну і каноплі калгас разлічваўся прадуктамі ў працэнтах пасля сезону. Можна было атрымаць не больш за конскую скрыню (адна тона) бульбы, а таксама пару пудоў насення лёну і каноплі. Насенне пешшу насілі ў Барысаў на маслабойны завод на выпрацоўку алею. Дарэчы, пры разліку за працадні калгас ніколі не браў да ўвагі малалетніх едакоў у сям'і.

Апраналіся ў саматканае. Мелі самаробныя станкі, пралкі, часалкі, верацяно ды кросны. Абуваліся ў лапці. Улетку нават іх берaглі і хадзілі больш басанож. Да вайны збожжа ў калгасе і на сваіх палетках жанчыны жалі сярпамі. Пасля сярпа заставаліся каласы. Збіралі іх дзеці басанож па ржышчы. Басанож хадзілі ў ягады і грыбы. Іх нарыхтоўвалі для сябе на зіму і насілі ў Смалявічы мяняць на соль, іголкі ды на іншыя неабходныя рэчы.

— Колькі сябе памятаю, — кажа Раіса Якаўлеўна, — *пастаянна хацелася есці. Усю зіму маці выдзяляла прадукты так, каб іх хапіла да вясны. Цешыліся, калі на пагорках з'яўлялася маладая крапіва. З яе варылі суп.*

## І сёння кідае ў халодны пот ад гуку самалёта

У пачатку лета 1941 года Рэнька, так у вёсцы называлі Раісу Якаўлеўну, скончыла першы клас. А 22 чэрвеня падвечар прыйшлі звесткі пра вайну. Ранкам 24 чэрвеня загулу ў Смалявічах і Мінску. Ад выбухаў дрыжэлі шыбы ў Пацічове. Падвечар 26 чэрвеня ў вёсцы з'явіліся немцы. Спачатку паводзілі сябе спакойна. А як праз некалькі дзён грамыханне фронта адкацілася далей, пачалося жыццё, гарчэйшае за рэдзьку, кажа суразмоўца. Немцы ўсталёўвалі свой парадак: праверкі, рабаванні, забароны, пагрозы. Каб менш сутыкацца з імі, вяскоўцы больш жылі ў лесе ў зямлянках. Там хавалі прадукты, вопратку і свойскую жывёлу. У вёску прыходзілі рэдка, крадучыся, па неадкладнай патрэбе.

Пацічоўскія мужыкі, у тым ліку і Якаў Карпавіч, былі ў партызанах, і немцы намагаліся вылавіць каго-небудзь з вяскоўцаў, каб даведацца месца дыслакацыі партызан. Неяк Лізавета Сцяпанаўна з сям'ёй прыйшла ў вёску па правіянт ды спячы хлеб. Пакінуўшы дзяцей у хаце, пайшла ў дрывотню. Выйшла з хаты, а на падворку — немцы. Яны вярнулі жанчыну ў хату, пачалі вобшук і допыт. Высокі руды немец з закатанымі рукавамі на ламанай рускай спачатку, памахваючы бізуном, дапытваўся, дзе яе муж ды іншыя і ці ведае яна, дзе хаваюцца партызаны. Не атрымаўшы жаданага адказу, пачырванеў і моцна стукнуў жанчыне кулаком у твар. Лізавета Сцяпанаўна абрынулася на падлогу. А немец яшчэ з большай сілай працягнуў катаванне жанчыны бізуном і нагамі. Перапала і дзецям за гвалт і плач. Немец лупцаваў ахвяру, пакуль тая не страціла прытомнасць. Раісе Якаўлеўне той момант запомніўся як самы жудасны:

— *Нам немцы забаранілі крычаць і плакаць, але, стоячы каля матулі, мы заліваліся слязьмі і трэсліся, як асінавыя лісточкі...*

Немцы ўсім загадалі станавіцца ў адзін рад да хаты пад сцяну. Маці ўзяла на адну руку самую маленькую, Зінку, а другой прытуліла да сябе Жэньку, прыгаворваючы, каб нічога не баяліся і маўчалі. А ў гэты час трое нямецкіх аўтаматчыкаў, навёўшы зброю на жанчыну і сямёра дзяцей, чакалі каманды ад высокага фашыста. Дзевяцігадовая Рэнька глядзела на дулы аўтаматаў і ў думках шукала паратунак. Меркавала: як толькі з дзюрак пачнуць выскокваць кулі, яна паваліцца і прыкінецца забітай. А як з'едуць немцы, пойдзе да таты і ўсё яму раскажа. Дзе шукаць бацьку, яна ведае...

Рэньчыны думкі перарвалі аўтаматныя чэргі. Калі аўтаматы змоўклі, немец зноў запытаў, ці ўспомнілі, дзе хаваюцца партызаны. Але і на гэты раз станоўчага адказу не дабіўся. Пасля чаго адпусціў і, пагражаючы расстрэлам, загадаў, каб з падворка не сыходзілі. Допыты працягваліся амаль месяц.

— *Увесь гэты час трое немцаў жылі ў хаце з намі*, — кажа Раіса Якаўлеўна. — *Матуля гатавала ім, а мы, дзеці, кожны дзень мылі ім ногі. А калі штосьці немцам не спадабаецца, то лупцавалі нас усё тым жа бізуном. І вось настаў час, калі мы выйшлі з падворка. Толькі мы марылі не пра такі выхад — выхад пад канвоем. Цешыла тое, што не ставілі больш да сцяны на расстрэл. Пад канвоем пагналі ў бок Смалявічаў, далучаючы па дарозе іншых вязняў. Праходзячы каля Шыпянскага лесу, убачылі, што поле паміж дарогай і лесам было засеяна забітымі мужчынамі. Пасля стала вядома, што расстралялі калону арыштаваных ваеннапалонных і мірных жыхароў, якія спрабавалі збегчы. Загінулі амаль усе...*

У Смалявічах сям'ю разам з іншымі размясцілі ў дашчатым будынку з дзюркамі ў сценах. Праз два дні пагроза быць адпраўленымі ў Германію мінавала. Штосьці ў немцаў не склалася. Усіх выпусцілі і загадалі не пакідаць сваіх вёсак. За невыкананне — смяротнае пакаранне. Усцешаныя людзі пайшлі дадому. Па дарозе абмяркоўвалі загад немцаў. Разумелі: гэта толькі адтэрміноўка зняволення. Заставаўся адзіны паратунак: сыходзіць у лес у зямлянкі. Так і зрабілі...

Зіма выдалася мяккай, але ўсё ж пачалі хварэць, асабліва дзеці. Спачатку думалася: звычайная прастуда, але аднавяскоўвец, партызанскі доктар Міхаіл Міхейчык, паставіў дыягназ: тыф. Лячыцца ў зямлянках было складана. Вярнуліся ў вёску...

Праз нейкі час на досвітку на вёску наляцелі немцы з паліцаямі. Але як даведаліся пра тыф, з'ехалі. Вясной эпідэмія адступіла. Як паціплела, людзі зноў сышлі ў лес. А хутка пачалася нямецкая блакада. Фашысты мелі задачу знішчыць партызан ды іх прыхільнікаў — мірных жыхароў. Каб людзі не загінулі, партызаны адвялі іх на балота, куды немцы не маглі дабрацца. Пераржылі тады блакаду без ахвяраў. А вось у апошнюю, у 1944 годзе, гінулі людзі і ад куль, і ад авіябомб. Асколкам параніла ў нагу і Раісу Якаўлеўну. Яе і сёння кідае ў халодны пот, калі пачуе гул самалёта...

## Бацькі не хацелі дачцэ калгаснай долі

У пачатку ліпеня прыйшло вызваленне. Гаспадарку адраджалі, галоўным чынам, жанчыны, старыя ды падлеткі. Мужчыны пасля партызанаў пайшлі ў Чырвоную Армію. Брыгада «Разгром», у якой партызаніў тата Раісы Якаўлеўны, 2 ліпеня 1944 года далучылася да Трэцяга Беларускага фронта. Якаў Карпавіч дайшоў да Берліна, дзе быў цяжка паранены. Вярнуўся дахаты напрыканцы 1946 года з пасечаным целам, асколкам у лёгкіх і перабітай нагой, — калі яго ўжо не чакалі. Спачатку пасля ранення не мог пісаць дадому, потым не хацеў, бо не быў упэўнены, што выжыве.

Як і да вайны, у калгасе працавалі за працадні, апраналіся ў саматканае ды ў лапцях хадзілі. Самым страшным быў голад. І да вайны жылі ў недаяданні, але той час быў сытым у параўнанні з пасляваенным...

Праз гадоў пяць пасля вайны стала лепш. У калгасе пачалі за працадзень даваць больш працэнтаў прадуктаў. На тataву пенсію інваліда вайны — 3 рублі 60 капеек — можна было купіць неабходнае. Напрыклад, чаравічкі дзяўчатам. Хлопцам купляць абутак не было патрэбы: яны адыходзілі ў войска ў лапцях, а вярталіся ў казённых ботах...

Раіса Якаўлеўна, калі ў 1952 годзе скончыла школу, адразу пайшла ў калгас, каб дапамагчы бацькам падняць малодшых сясцёр. Бацькі ж былі супраць таго, што Рэнька застаецца ў калгасе. Хацелася, каб дачка атрымала адукацыю, каб хоць ёй лепшая доля выпала, не калгасная. Але Рэнька стаяла на сваім:

— *Пакуль брат і сястра не падрастуць, з хаты — ні нагой.*

## Як «наша Якаўлеўна» трапіла ў Чысць

Бацька́м год спатрэбіўся, каб угаварыць Рэньку паехаць у горад на вучобу. У 1953-м Раіса паступіла ў Мінскі палітэхнікум, а ў 1955-м яго скончыла. Пайшла на працу да брата Пятра ў Смалявіцкае СМУ. Пасля яе і накіравалі ў Маладзечанскі раён на торфапрацоўку новага радовішча Чысць начальнікам участка. Займела шмат абавязкаў і адказнасці. У падпарадкаванне перадалі шмат тэхнікі, паўтары сотні работнікаў. Асабліва запомніўся трактарок ДТ-20 з аднацыліндровым дызельным рухавіком. На іх мужчыны сарамеліся працаваць. А работніц, якія імі кіравалі, называлі не трактарысткамі, а лётчыцамі, бо іх тэхніку можна было чуць здалёк. Гук рухавіка нагадваў работу самалёта-кукурузніка...



Раіса Вішнеўская (Коўган)

На прадпрыемстве Раіса Якаўлеўна пазнаёмілася з хлопцам з суседніх Івак Канстанцінам Ісаевічам Вішнеўскім (1931 г.н). Ён працаваў электрыкам на заводзе. Маладых яднала падабенства лёсаў: аднолькавае калгаснае жыццё, працавітасць, шчырасць, ваенны шлях. Канстанцінаў бацька, Ісай, таксама з фронту вярнуўся інвалідам першай групы. Сяброўства маладых перарасло ў каханне. Тым часам Раісам Якаўлеўна атрымала новую пасаду — інспектар пры міністэрстве «Дзяржторффонда». Раіса і Канстанцін пажаніліся ў 1960 годзе. Пачалі нараджацца дзеці...

Адпрацаваўшы 25 гадоў інспектарам «Дзяржторффонда», выйшла на пенсію. Кіраўніцтва прасіла яшчэ папрацаваць, але яна сышла. У той час пенсіянеру пры дзяржпасадзе працаваць было стратна. Утрымліваліся вялікія падаткі. А для сям'і патрэбныя былі грошы. Таму Раіса Якаўлеўна пайшла на Красненскі льнозавод. Убачыўшы дакументы і працоўную кніжку, у адміністрацыі прапанавалі любую пасаду, акрамя дырэктарскай. Падзякаваўшы за давер, жанчына афармілася рабочай... А калі ў Чысці быў узведзены завод буйнапанэльнага домабудавання, Раіса Якаўлеўна перавялася туды прыбіральшчыцай...

Адпрацавала да 2004 года, мае пяцідзесяцігадовы стаж. І гэта без уліку калгаснай працы ў дзяцінстве. Але і сёння жанчына пры справах. У яе ад ранняй вясны пачынаецца нарыхтоўка ягад, грыбоў. Гародніны, яблыкаў, сліў, вішняў хапае не толькі дзецям і ўнукам, а нават іншым. Хапае і пачаставаць, і прадаць, каб гной купіць. Бо хімію Раіса Якаўлеўна не прызнае.

Напрыканцы нашай сустрэчы суразмоўца падзялілася:

— *Жыццё пражытае вялікае і нялёгкае, часам трагічнае, са стратамі, але шчаслівае. Бо жывучы на гэтым свеце, нікому не рабіла шкоды, толькі дабро. І дзецям імкнулася прышчапіць гэта...*

# На Мёртвым



Галіна ЛЮМАРАВА



Фота gagaru.club

Сонца, здавалася, усю сваю моцу абрынула на Ізраіль, каб спапяліць краіну дарэшты. Мёртвым было не толькі так званае мора, але і белыя ад выступілай на іх солі камяні, і горы, што непрыступнай цытадэллю ўзвышаліся за вузкай палоскай жыцця. Гэтая палоска, заціснутая паміж мёртвай вадой і мёртвымі гарамі, ляпілася сваімі гатэлямі, пальмамі, крамкамі і будынкамі да бетоннай шашы, што бегла ўздоўж узбярэжжа і з'ўлялася для яе жыццядайнай артэрыяй.

Віцця сядзела на пляжы ў белым пластыкавым фатэлі з пляшкай мінералкі ў руцэ, закрыўшыся вялікім саламяным капелюшом ад пякучага ізраільскага сонца, і разважала над метамарфозамі зменлівага лёсу.

Ці марыла яна, простая бухгалтарка панчошнай фабрыкі, яшчэ некалькі гадоў таму, што апынецца ў самым сэрцы Ізраіля, пра які толькі і ведала, што там жывуць габрэі, і што яны нешта не падзялілі з арабамі? А цяпер Віцця дзясяты дзень вандруе па гэтай усходняй краіне, і ў ейнай галаве ўжо суцэльная мешанка з белых іерусалімскіх кварталаў, каменных сцен Акі, кесарыйскага амфітэатра, садоў багайскага храма і яшчэ няведама чаго, таго, што яна і запомніць не магла, і пераварыць таксама.

— Дай ты мне спакою! — мовіла яна сёння раніцай сваёй няўрымслівай дачцэ, якая збіралася з іхняй турыстычнай групай у нейкае Эн-Гэдзі да вадаспадаў. Вось так і засталася Віцця на цэлы дзень адна, без тлуму і глуму.

Гэта дзякуючы ёй, дачцэ Аксане, яна тут, у Ізраілі. Сама Аксана чатыры гады жыве ў Марока з мараканцам Жалем у грамадзянскім шлюбе. Аксане дваццаць шэсць, Жаліку — сорак два. Як па нашых мерках, дык розніца даволі істотная, а калі ўлічыць даброты, якімі ён яе акружыў, дык і нічога, можна гэта пацярпець. І тое, што шчуплы Жаля да пляча высокай і мажнай Аксане. Яна, праўда, заўсёды выбірала невысокіх хлопцаў, і Віцця неяк пацікавілася: «Дачушка мая, ты ж такая ладная і прыгожая, што ты ўвесь час карузлікаў выбіраеш?». На што дасведчаная Аксана адказала маці: «Цярпець не магу цыбатых — гэтыя кнаты нібы мыліцы ў ложку».

І з ёй не паспрачаешся, бо ў яе самой было столькі мужчын, што ў Віцці не хопіць пальцаў на руках і нагах… А калі Жаля хоча мець побач прыгожую маладую попку, няхай плоціць і цярпіць ейныя выбрыкі. Як мусульманін, ён ненавідзіць габрэеў і апавясціў Аксане, калі даведаўся, куды яна хоча накіравацца: «Туды ты не паедзеш». Дарэмна ён сказаў так — яна не цярпіць ніякіх загадаў сваёй персоне і цяпер ужо абавязкова зробіць насуперак, нават калі разрыў адносінаў замаячыць на даляглядзе. А ён пакуль што не гатовы адмовіцца ад гэтай персікавай скуры і ад астатняга таксама. Дарэчы, ён ведае некалькі моў, але беларуская не ўваходзіць у той пералік, што спрашчае абедзвюм жанчынам зносіны паміж сабой па тэлефоне, калі ён знаходзіцца побач, а трэба сказаць нешта сваё…

Жаля багаты чалавек, гуляе на біржы, і акцыі, у якія ён уклаў свае грошы, ста́ла растуць. Ягоны палац на беразе акіяна — каля сарака кіламетраў ад Рабата — абслугоўвае цэлая брыгада служак, і Аксана, безумоўна, з'ўляецца лепшым ягоным упрыгожваннем. Але попкі вельмі хутка старэюць, Віцця добра гэта ведае, і яе непакоіць, што ў дачкі няма ніякіх гарантыяў на будучыню, бо адносіны паміж імі не аформлены і ў любы момант ейная Аксана можа вылецець з цудоўнага палацу на беразе акіяна.

Аднак Аксана ўпэўненая, што ейныя прыгажосць і ўлада над мужчынамі назаўсёды. Топне капрызліва сваёй прыгожай ножкай, скасавурыцца на нешта за вакном, Жалік і растае. Так і здарылася, змірыўся і на гэты раз.

Аксана са сваім Жалікам аб'ездзіла паўсвету — дзе толькі ні была! І на Карыбах, і на Мальдывах, і на Гаіці, і на Таіці… Але яна ў захапленні ад Ізраіля — кажа, што ізраільскі курорт самы лепшы з тых, што яна бачыла, а такой смачнай ежы, як тут, увогуле нідзе не каштавала! Што ж тады казаць Віцці, якая нідзе, можна сказаць, і не была. Ізраіль абрынуўся на яе чароўнай казкай, пачынаючы з начнога Тэль-Авіву, што зняпацку выплыў з-пад крыла самалёта зіхаценнем мірыядаў агнёў…

Яшчэ пазаўчора ўвечары яны сядзелі ў двары гатэля на Чырвоным моры ў Эйлаце. Нягледзячы на тое, што начная цемра ўжо ахутала курорт, спякоту выпраменьвалі горы, што назапасілі яе за дзень, і толькі лёгкі марскі брыз трошкі асвяжаў апечаныя сонцам целы. Арэлі, на якіх уладкаваліся маці з дачкой, крыху пагойдваліся, зялёныя фінікі нячутна ападалі з пальмаў, і радасць ад сустрэчы з дачкой, ад таго, што тая прывезла яе сюды, каб Віцця пабачыла свет, нараджалі ў ейнай душы даўно забытае пачуццё шчасця. Менавіта шчасця, бо надышоў момант, калі і пра яе клапоціцца дачка, дагаджае ёй, купляе ўсё, на што толькі яна кіне погляд. Дзень яны прысвяцілі даследванню марской флоры і фаўны, і Віцця не магла надзівіцца: ніколі не думала, што на свеце існуюць такія пачвары, якіх яны пабачылі ў падводнай панараме.

Віцця глядзела на пальмы, упрыгожаныя пярэстымі электрычнымі кара́лямі, і раптам ёй падалося, быццам яна недзе ўжо бачыла гэты асветлены будынак і падсветку начных пальмавых алей… Дакладна бачыла, у сне, што не так даўно сасніла!

— Слухай, Аксана, што я табе скажу! Я бачыла ўсё гэта — пальмы з гірляндамі і гатэль — у сне. Быццам я ўваходжу праз гэтыя дзверы ў прасторны хол. Падыходжу да пышнай бландзінкі з узбітай фрызурай і доўгімі фіялетавымі пазногцямі, яна сядзіць за касай. «Што вы жадаеце? — пытаецца яна ў мяне». «Мне, калі ласка, хлопца ва ўзросце дваццаці сямі гадоў на дзве гадзіны».

Яна называе мне суму, і я разлічваюся нейкімі грашыма. У той жа момант да мяне падскоквае невядома адкуль прыгожы чарнавокі хлопец у белай кашулі, чорных скураных нагавіцах і каміззльцы. «Пойдзем са мной, я ведаю тут адно свабоднае месцейка», — шэпча ён мне на вуха і так жарсна абдымае за плечы, што ў мяне нямеюць кончыкі пальцаў на нагах. Абняўшыся, мы выходзім у гатэльны двор, ад якога ў розныя бакі разыходзяцца пальмавыя алеі і гучыць вясёлы смех. «Сорамна, бо ўсе бачаць мяне з ім і разумеюць, дзеля чаго пяцідзесяцігодка ідзе з маладым хлопцам», — з'ўляецца нечаканая думка, але тут жа я сябе супакойваю: «Ну і няхай, я ж за ўсё заплаціла…». Я прачынаюся…

— Ну, мама, — рассмяялася Аксана, — нішто сабе трызненні! Адно табе толькі скажу: гані ты свайго ханурыка, каб духу ягонага чутна не было, калі табе сняцца такія сны.

Ханурыкам Аксана называла Віццінага сужыцеля. Яны сышліся год таму назад, і ўсё было б нічога, каб ён не валяўся кожны дзень п'яны на канапе перад тэлевізарам. Ад гэтага ў яго часта не атрымлівалася галоўная мужчынская праца, у чым ён упарта вінавацію Віцію — маўляў, ты старая і непрываблівая.

— А калі хочаш, — працягвала Аксана — мы табе зараз набудзем хлопчыка, нават на ўсю ноч!

Пасмяяўшыся, падняліся з арэляў і накіраваліся да гатэля: было ўжо позна, а заўтра рана падымацца. Віцця не сумнявалася: скажы яна «так» — і гэтае ейнае жаданне было б выканана…

Аднак сонца паліць неміласэрна, можна і асвяжыцца. Віцця заходзіць у ваду. І каму магло гэта падабацца?! Цёплая масляністая лужына — вось што такое Мёртвае мора. Боўтаешся, нібы папалавок, толькі і глядзі, каб не перакуліцца. У дадатак прыбіральня на пляжы каштуе два шэкелі. Разлаваўшыся, Віцця вырашае развязаць сваю праблему ў вадзе, але нічога не атрымліваецца: ціск насычанай соллю вады настолькі вялікі, што немагчыма перамагчы яго напружаннем знутры.

Хітрыя габрэі! Праўду той казаў: з ярмолкі штаны скрояць. Даводзіцца вылезці на бераг і заплаціць два шэкелі. Назад яна вяртаецца ўжо ў палепшаным настроі і, праходзячы па вадзе, акі Хрыстос, вырашае бліснуць ведамі мовы.

— Бокер тов, — прамаўляе яна ранішняе ізраільскае прывітанне, мінаючы купку мужчын.

Аднак на гэтым слоўнікавы запас скончыўся, і на пытанне мужчыны, які аддзяліўся ад астатніх і накіраваўся за ёй, яна толькі развяла рукамі. Апошняе слова было «іўрыт», давялося пакруціць галавой — не. На слова «англіт» Віцця таксама паматала галавой: і ангельскай мовы яна не ведала. Але мужчына не адстаў ад яе, а наадварот, паклікаў за сабой углыб возера. Ён паказваў у тым напрамку рукой, старанна дзьмухаў і паўтараў: «Руах, руах», з чаго Віцця зрабіла выснову, што на глыбіні дзьме ветрык і не так горача. Пакуль павольна перасоўваліся ўглыб, яна разгледзела свайго спадарожніка. Гадоў пяцідзесяці, правільныя рысы загарэлага твару, шчырая вясёлая ўсмешка. Калі б не мова — ніколі не скажаш, што замежнік. Ён увесь час нешта гаварыў, напяваў вясёлы матыў, прадставіўся, прыклаўшы руку да грудзей і прамовіўшы: «Міхаэль». Віцця таксама назвала сваё імя — Вікторыя. Пакуль боўталіся ў вадзе, высветлілася, што ён пасяліўся ў тым жа гатэлі, а жыве ў Бер-Шэве. Да берага вярталіся, узяўшыся за рукі, і Міхаэль нават паспрабаваў павальсаваць з ёй, насвістваючы нешта вясёлае. Віцця пагрозліва ківала яму пальчыкам, калі ягоная рука раптам саслізвала занадта нізка; ён падымаў рукі ўверх, быццам спалохаўшыся: не, не — і абодва смяяліся.

На беразе ён прыцягнуў сваю пасцілку да Віццінага фатэльчыка і больш не адыходзіў ад яе. Праз дзве гадзіны яны ўжо ляжалі на гэтай пасцілцы ўдвух, і Віцця старанна вывучала малюнкі, што ён маляваў на пяску. На пачатку дваццаць першага веку малюнкавае пісьмо аказалася раптам запатрабаваным. Ён маляваў сонца і паказваў, якое яно гарачае, датыкаючыся да яго, і, быццам апаліўшыся, трос рукой і дзьмухаў на пальцы, потым называў гэта на іўрыце: хам, горача. «Міхаэль таксама гарачы, нібы сонца», — казаў ён, прыкладваючы ейную руку да сваіх грудзей. Такім чынам праз некаторы час Віцця ўжо ведала некалькі паняткаў, а з улікам таго, што самае галоўнае, як вядома, зразумела без слоў, яны ніядрэнна дамаўляліся. Калі ён пахлопваў яе крыху ніжэй спіны і прыгаворваў: «Тух тов мэод!» — Віцця выдатна разумела, што гэта азначае. Тов мэод — вельмі добра, ну, а тух, тохэс — слова, якое ў ейным горадзе ведалі ўсе старажылы, бо там жыло раней шмат габрэяў, пакуль не перабраліся сюды, у Ізраіль. Віцця памятае са свайго дзяцінства, як суседка Соня Беленькая крычала сваёй суседцы Малцы, калі яны сварыліся: «Кус майн тохэс!» — што азначала: пацалуй мяне ў задніцу!

Ну, Міхаэль Амерыку не адкрыў — сама Каліпіга, Венера Цудоўназадая магла б пазайздросціць Віццінаму азадку, форму якога Віцця спадкавала ад сваёй бабулі і перадала дачцэ. Бабця Маланння, царства ёй нябеснае, мела цела той прыгажосці, што не так часта нараджаецца пад нашым сонцам, ды хто яго бачыў ці ацаніў! Дзе той скульптар, які павінен быў праславіць дасканаласць гэтага цела, якое, у сваю чаргу, праславіла б яго? Беспрасветная праца на калгасных палетках ды ў сваёй гаспадарцы, сон урыўкамі ад вячэрняй дойкі да ранішняй, з адзежы — драная ватоўка ды гумавыя боты, заўсёды п'яны мужык увечары, — вось і ўсё жыццё. Праўда, суседка, якая прыходзіла абмываць бабцю, калі тая памерла на дзевяностым годзе жыцця, вельмі была здзіўленая: «Віцця, якая постаць прыгожая ў тваёй бабулі — дзеўка можа пазайздросціць!». Але і дачцэ з унучкай нешта засталося ў спадчыну…

Віцця пляснула па руцэ, якая зусім асмялела і пасунулася не туды, куды варта было, і сусед тут жа прыбраў яе, памахаўшы перад Віццяй — ён паслухмяны. Віцця рассмяялася і адчула раптам такі спакой на душы: так бы і ляжала побач з гэтым мужчынам, з якім усё так проста!

Пад вечар вярнулася Аксана з новымі ўражаннямі і фотаздымкамі. «Нармалёвы дзядзька, мама!» — адазвалася яна наконт мамінага новага знаёмага.

Дзякуючы Аксане, якая перакладала Міхаэля з ангельскай мовы, Віцця пачула на свой адрас багата кампліментаў. «У тваёй мамы залаты характар», — сказаў ён Аксане. А гэта ўжо як ён змог пабачыць?

І пра яго крыху даведалася: год таму аўдавеў, жыве з сынам і нявесткай, выкладае ў школе маляванне.

Рэшту дня правялі ўтрох, а пасля вячэры пайшлі да яго ў нумар пакаштаваць ізраільскага віна. І яна засталася там да раніцы…

Развіталіся каля аўтобуса, які вёз іх у Тэль-Авіў — адпачынак скончыўся. Цалаваліся, фатаграфаваліся, абняўшыся, Міхаэль занатаваў Аксанін электронны адрас. Ён напіша Віцці праз Аксану, і яны абавязкова сустрэнуцца!

…Разглядваючы праз аўтобуснае вакно ізраільскую пустэльню, вярблюдаў, якія скублі нешта нябачнае каля бедуінскіх хацінак, нягеглых, але з сонечнымі батарэямі на дахах, яна разумела, якія непераадольныя перашкоды іх раз'ядноўваюць, не кажучы ўжо пра моўны бар'ер. Хутчэй за ўсё, сустрэча на Мёртвым моры застанецца яркім успамінам адпачынку, але паступова будзе бляякнуць і бляякнуць у чарадзе шэрых дзён, як бляякнуць і зусім знікаюць зіхатлівыя ўзоры, якія, заплюшчыўшы вочы, мы бачым пасля таго, як нагледзеліся на сонца.

Але адно яна ведала дакладна: ніякіх ханурыкаў з гэтага часу не будзе ў ейным жыцці.

# Торым сцежкі свае...



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

***

*Між вод акіянскіх,*
*на лапіках сушы*
*Прыходзяць пажыць*
*усё новыя душы.*
*Да розных народаў,*
*у кліматах розных,*
*Хто болей, хто меней,*
*хто рана, хто позна.*
*Хто ў сем'ях заможных,*
*а хто сіратою*
*Свой век адбывае*
*на пару з бядою.*
*І кожны адноўчы —*
*глухі, безгалосы —*
*Апошні свой выдых*
*пашле да нябёсаў.*
*І толькі анёл*
*разбярэ на мяжы*
*Дакор, што пакутваў,*
*падзяку, што жыў.*

***

*Сярпок вісеў над нашым домам*
*(Хоць ты яго на мінарэт!),*
*І праз яго здаваўся свет*
*Якімсьці новым,*
*незнаёмым.*

*І зорка ветліва мігцела,*
*І нават вулічны ліхтар*
*Не адвярнуў свой бледны твар...*
*Я ўсё стаяла і глядзела.*

*А без кашулі белай люты*
*Кранаўся рук і шчок маіх.*
*Ды хоць салодкім здаўся міг,*
*А дзень быў горкім, як атрута.*

***

*Анёлак на плячы сядзеў,*
*І бачыў: шлях мой невясёлы,*
*Але спыніць не захацеў*
*Ці, можа быць,*
*не меў дазволу.*

*Ішла. Належала ісці*
*Да прорвы самай — прымусова,*
*Каб невымерна мог расці*
*Настаўнік —*
*вопыт мой жыццёвы.*
*Няхай бы рос, я не супроць.*
*Ды каб страхоўкі трошкі хоць!*

***

*Гаротны, хто праўду шукае,*
*Бо праўда высока лятае.*
*Ці рыбінай плавае ў моры,*
*Ці ў сейфе стальным*
*на запоры.*

*У склепе, дзе плесня і мухі,*
*На вышках,*
*дзе прадзедаў духі.*
*Альбо пад матрасам схавана*
*Ці горш — у зямлю закапана.*

*Ні следу няма і ні знаку,*
*Не знойдуць прыбор і сабака...*
*Ды дзе б ні была яна, праўда, —*
*Свайму затачэнню не рада.*

***

*Я да ўсіх вас прыйду і скажу:*
*— Дык аддайце, што вы пазычалі.*
*Адбіралі. Выманьвалі. Кралі.*
*(Мімаходам плявалі ў душу.)*
*Не жадалі, гаворыце, зла?*
*Зло вы самі, яго ўвасабленне.*
*Не паставіць мяне на калені,*
*Хоць і доўга малою была.*

*Мой дзіцёнак унутраны спіць.*
*Ён цяпер за шчытом, у бяспецы,*
*Так надзейна схаваны у сэрцы,*
*Што ніякай страле не прабіць.*

***

***«Наша жыццё — сон Бога».***

*Богу сніцца кашмар трэці дзень,*
*Ён хацеў бы прачнуцца*
*І ад гэтага сну страсянуцца:*
*«Прападзі, прападзі, страшны цень!».*
*Бог хацеў бы прыемнае сніць —*
*Ну там райскія долы...*
*Бог хацеў бы людзей бараніць*
*З дапамогай анёлаў.*
*З-за мяне непакоіцца ён.*
*Прападзі, прападзі, кепскі сон!*

***

*Два недалюбленых дзіцяці*
*Раслі, каб некалі сустрэцца.*
*І кожны лішнім быў у хаце,*
*І кожны марыў, каб сагрэцца.*

*Калі ж жыццёвыя дарогі*
*Ў адну спраміліся адноўчы,*
*Нагараваліся, нябогі,*
*І разбягаліся ўжо двойчы.*

*Што значыць*
*шлях наш невясёлы?*
*Якія тайны нас злучылі?*
*Мы — два наведвальнікі школы,*
*Дзе болей розгамі вучылі.*

***

*Хай кожнаму будзе адплата —*
*Хто добры і хто ліхадзей.*
*Самая чорная здрада —*
*Што ад любімых людзей.*

*Самая горшая рана —*
*Што на душы, на душы...*
*Калі абалонка сарвана —*
*Лекуйся: вершы пішы.*

## Антыутопія

*Каб лета з зімой не зраўнялася!*
*І прыйдуць тады назаўжды*
*Не то нясканчоная восень,*
*Не то безупынку прадвесне.*
*У вулеях пчолкі змарнеюць,*
*Адмовіцца жыта расці.*
*А дрэвы,*
*ў разладзе з прыродай,*
*Зусім распранучца і вымруць.*
*Сярод дыктатуры туману,*
*Дзе шэрае пошасці шал,*
*Мы самі сябе адрачэмся*
*І станем,*
*як парасткі ў склепе.*
*Хімічную ежу засвоім,*
*Хімічныя ўсцягнем тканіны*
*І будзем тлумачыць унукам,*
*Што сонца далёка, ды ёсць.*

## Да пана Ёдкі

*Санаторскі народ*
*павялі да Наркевіча-Ёдкі.*
*Два сабачкі ўвязаліся следам,*
*два смелых жукі.*
*Шлях быў новым,*
*падаўся зусім не кароткім —*
*Праз Усу і да іншай*
*скаванае лёдам ракі.*

*Нёман там з Неманцом,*
*там былога руіны і рэшткі.*
*Славу Ёдкі калісьці*
*Еўропа прызнала сама.*
*І бабулі, адстаўшы,*
*па снезе спяшаліся бежкі,*
*І няўцямнаю, спячаю памяць была,*
*як зіма.*

***

*Так нязвыкла за вокнамі вее...*
*Ад мяцеліц адвыклі мы ўсе.*
*Торым сцежкі свае пакрысе,*
*Прывітаўшы пару Вадалея.*

*Хай нас будучынь строга не судзіць:*
*Недасеў, недабор, неўмалот...*
*Новы час, новых думак палёт.*
*Падштурхоўваюць тых, хто марудзіць.*

***

*Вясною бывае пара халадоў.*
*Сцінаюцца кветкі ад лютага ветру,*
*Нібыта хацелі б схавацца у нетры.*
*Бывае, бывае пара халадоў.*

*Галоўнае — вытрымаць, ператрываць.*
*На жаль і на шчасце, жыццё паласатае.*
*Становішча зорак, сезоны і даты,*
*Адносіны, лёсу кірунак, зарплата —*
*Мяняецца ўсё!*
*Застаецца чакаць.*

## Роздум пра муху

***Перайманне Анатоля Вярцінскага***

*Муха сядзіць на варэнні.*
*Гэтага мала, што села.*
*Можа быць,*
*села і не паела.*
*Можа быць, з'ела меней,*
*Чымся хацеў яе апетыт.*
*Далей перайду на петыт.*
*Ці моцным было памкненне*
*Удосталь паесці варэння?*
*А мо спрацавала інерцыя?*
*Альбо мела месца камерцыя?*
*Мо папрасіла сяброўка,*
*Адмовіць было нялоўка.*
*А раптам галодныя дзеці*
*Плачуць,*
*дык як тут есці?*
*Дапусцім таксама*
*(што верагодна):*
*Салодкае есці ёй шкодна,*
*Не тут кажучы — дыябет...*
*А што як у мухі*
*не скора абед,*
*Ды перакусваць не раіць дыета?*
*Дзеці!*
*Падумаць вам раю пра гэта.*
*Колькі у нас на шляху перашкод,*
*Колькі абставінаў розных,*
*прыгод!*
*Горай бацькоўскай папружкі*
*Чужая бліскучая стужка.*
*Так што прыпавесць пра варэнне*
*Вялікае мае значэнне.*

***

*Эпоха лёдавых палацаў*
*Калісьці пройдзе, спадзяюся.*
*Ўздыхнецца лёгка*
*Беларусі*
*І перастануць мо баяцца*
*Маўклівыя,*
*што вечна з краю.*
*Рабы з партфелямі, бывайце!*
*Вас нават Бог не пакарае,*
*Бо вы як смецце*
*ў нашай хаце.*

## Вопыт

*Жыццё паспрабуй раскладзі*
*на мінуты...*
*Ёсць вопыт любові*
*і вопыт пакуты.*
*У кожнага свой абавязак і клопат.*
*Ёсць вопыт багацця*
*і беднасці вопыт.*
*Шмат іншых бывае:*
*калецтва, няволі,*
*Раптоўнае смерці...*
*(Даволі, даволі!)*
*Ды толькі не кажам*
*удзячныя словы*
*За вопыт набыты наш,*
*цяжкі і новы.*

***

*Абставіны аслабілі ціскі.*
*Надоўга? Невядома.*
*Лёс такі.*
*Ён лёгкім не бывае, як вада*
*Не можа быць сухою.*
*Злыбяда*
*Суправаджае ўсіх нас на зямлі.*
*Мы б з ёй пасябравалі,*
*каб маглі,*
*Мы б даравалі Богу і людзям,*
*Каб трошачкі лягчэй*
*жылося нам.*
*А зрэшты —*
*што ім наша дараванне?*
*Прабачаць і яны,*
*як нас не стане.*



Калаж wise-women.com

# Тры жанчыны і сабака



Міхась ЗІЗЮК

## 1

Вось што ён зрабіў не так? Можа, не варта яму было ўвогуле сабаку заводзіць? Суседка, пенсіянерка Алена Іванаўна, так і сказала яму: ты хоць зноў хутчэй ажэнішся. Толькі ці так яно? Шлюбы, сапраўдныя шлюбы, бадай што, ствараюцца на нябёсах, а пасля трапляюць на зямлю, трэба толькі знайсці тую самую, сапраўдную, палову.

Так разважаў Андрэй Берастовіч пасля смерці Вальтэра. Вальтэр. Ці вінаваты сабака, што ён зноў самотны? Мо ў яго самога такая натура, такі характар, што ён занадта патрабавальны да іншых, з-за чаго з ім ніхто не ўжываецца? А магчыма, яму трапляліся такія дзяўчаты, якія не вартыя яго, сярод іх не было той самай, адзінай. Адказаў няма і не будзе.

Сабака… Берастовіч на той час не збіраўся заводзіць ні сабаку, ні ката, ні нават хамячка — анікога. Не тое, каб ён не любіў жывёлаў, не, наадварот. Колькі Андрэй сябе памятаў, у іхняй кватэры заўсёды жылі каты — маці любіла іх. Тата ставіўся да гэтага нейтральна: хоча — хай трымае і клапоціцца, абы яго не чапала. А калі Андрэю на дзясятыя ўгодкі падарылі сабаку, то ён быў на сёмым небе ад шчасця. Ягоны сабака — жвавы і няўрымслівы джэк-расэл-тэр'ер Алекс — хутка стаў любімцам у сям'і. Нават тата, для якога ўлюбёным заняткам было ляжанне на канапе перад тэлевізарам, іншы раз выходзіў з ім пагуляць. Алекс меў лагодны характар, неўзабаве паладзіў з рудым Барсікам — маміным гадаванцам. Яны разам гулялі, маглі спаць у абдымку, Барсік мог паласавацца з сабачай міскі. Алекс загадкава знік за некалькі месяцаў да смерці таты. На выгуле Берастовіч спусціў яго з павадка, сабака забег за кусты і — як растварыўся.

А пасля заўчаснай смерці бацькоў, якія хутка сыйшлі адзін за адным, трагічна загінуў і Барсік. Неўзабаве пасля матчыных саракавін Берастовіч, збіраючыся на працу, пакінуў прыадчыненымі дзверы на лоджыю. Ён не памятаў, ці зачыняў там вакно, але калі вярнуўся з працы, то ўбачыў, што яно разнасцежана, а ката няма. Зірнуўшы ўніз з вышыні дзявятага паверха, не адразу ўсвядоміў, што на асфальце ляжыць цела Барсіка. Як і чаму тое сталася — невядома. Так ён застаўся зусім адзін, праўда, ненадоўга: праз паўгода Берастовіч ажаніўся. Але ўсё гэта — і жыццё з бацькамі, і з былою жонкаю, — засталося ў нейкім далёкім, іншым жыцці.

Дзень пачаўся звычайна. У Берастовіча зменная праца, два праз два, у яго быў якраз вольны дзень. Адаспаўшыся, ён пайшоў у краму на закупку прадуктаў. Сёння Насця абяцала згатаваць нешта смачнае і склала яму спіс таго, што неабходна купіць. На падыходзе да крамы стаў сведкам, як камунальшчыкі адлоўлівалі бадзялых сабак. Чорны з белымі плямамі сабака сярэдніх памераў, не пародзісты, а самы звычайны дварняк, кідаўся ў розныя бакі, адчайна спрабуючы схавацца, але не знаходзіў паратунку. З аднаго боку дарогу перагароджвала будыніна крамы, далей да яе ўшчыльную прымыкаў бетонны плот. З трэцяга боку якраз і набліжаўся той, ад каго ўцякаў сабака. Калі топішся, і за касу хопішся — заставалася толькі адно выйсце: ходнікі, дзе ішлі людзі. Туды і кінуўся сабака, трапіўшы пад ногі Берастовічу. Бедная напалоханая жывёліна ўзняла галаву. У сабачых вачах свяціўся ці то сполах, ці то адчай, ці то пробліск апошняй надзеі, ад чаго ў Берастовіча ажно прыпынілася дыханне. І ён зразумеў, што нікому не аддасць сабаку.

Мужчына прысеў, асцярожна схапіў яго за поўсць і ціха сказаў:

— Ну-ну, што ты, дурненькі, не бойся, не бойся — я не дам цябе ў крыўду.

Сабака, калоцячыся ўсім целам, рыхтык зразумеў яго: ён нават не рабіў спробы вызваліцца ці ўцячы, а, наадварот, прытуліўся да каленяў. Малады вусаты хлапец, які лавіў сабаку, наблізіўшыся, утаропіўся ў Берастовіча:

— Што, твой?

— Мой, — упэўнена адказаў мужчына.

— Твой? — недаверліва хмыкнуў хлапец. — Калі твой, то чаму без нашыйніка?

— Парваў, калі пагнаўся за другім сабакам. Я яго паўдня ўжо шукаю, — Берастовіч адказаў першае, што прыйшло ў галаву.

— Твой не твой — мне адна халера, — хлапец прабурчаў гэта такім тонам, быццам Берастовіч пакрыўдзіў яго сваім адказам. — Як сабе хочаш, але калі твой — то глядзець трэба.

Ён раздражнёна сплюнуў сабе пад ногі ды нетаропка пашкандыбаў да машыны. Берастовіч падняўся. Што ж, у краму, мабыць, давядзецца ісці пасля.

— Ну што, дружа, чый ты будзеш?

Сабака зірнуў на яго, злёгку вільнуў хвастом і прысеў, нібы нечага чакаючы. Усім сваім выглядам ён выказваў сваю прыязнасць і давер да чалавека, які абараніў яго. І Берастовіч зразумеў, што сабака нічый, бадзялы. Як даўно ён без гаспадароў — зразумець цяжка. Але тое, што ён даверае, што ідзе да рук, разумее добрую інтанацыю, паказвала: сабака наўрад ці нарадзіўся і вырас на вуліцы.

— Ну, вось што з табою рабіць? Сказаў на сваю галаву, што мой. Эх, была ні была — станеш маім. Будзем думаць, як цябе абуладкоўваць.

Андрэй сцягнуў з джынсаў папругу, прыладзіў на сабачай шыі.

— Што, пойдзем?

Сабака паслухмяна патрусіў за ім…

У кватэры Берастовіч адшукаў стары выцерты дыванок, на якім некалі ляжаў Алекс. Не выкінуў, а цяпер ён і спатрэбіўся. Сабака адразу ж лёг на прапанаванае месца, супакоіўся, выцягнуў лапы і паклаў на іх галаву. Берастовіч прысеў побач, прылашчыў сабаку. Прыдбаў клопат на сваю галаву. Цяпер трэба думаць, як яго выгульваць — працуе ж па дванаццаць гадзін. Трэба купляць міску, ежу, прывіўкі рабіць. Нашыйнік, шворка і напыснік дзесьці ляжаць — трэба толькі пашукаць на лоджыі. Па памеры павінен падысці. Вось толькі навошта яму сабака? Але падсвядома разумеў, што зрабіць інакш ніколі не змог бы, што раней ці пазней, але сабаку ён займеў бы.

## 2

З жонкаю ён пражыў амаль паўтары гады. Усё было як быццам бы добра, але сумеснае жыццё ў іх не склеілася. Пачалося з нейкіх дробязных папрокаў, нейкіх звычак, якія ні ён, ні яна не захацелі змяніць. Яна меркавала, што мужчына павінен ва ўсім саступаць слабаму полу. Пасля гэта дробная дурнота перарасла ў штосьці большае, глыбіннае, і ўжо перапліць тую раку непаразумення, якую яны стварылі самі сабе, ніхто з іх не змог. Спачатку жонка сыходзіла на нейкі дзень-два да бацькоў, потым яны мірыліся, пасля зноў сварыліся. Урэшце аднаго разу яна пайшла і не вярнулася, а пасля патэлефанавала і сказала, што падала на развод. Развяліся яны без асаблівых папрокаў і звадаў, дзяцей у іх не было, як не было і агульнай маёмасці — кватэра Берастовічу дасталася ў спадчыну ад бацькоў. Што ж, не памогуць чары, як каму хто не да пары. Так ён застаўся адзін.

Праз два месяцы сышоўся з Насцяю — працавалі разам, але ў розных аддзелах. Дзіўна, але спачатку яны перапісваліся ў фэйсбуку, пасля ўжо пазнаёміліся, папілі разам кавы і сталі сустракацца. Насця — танклявая, спрытная і вясёлая — мела даволі прывабную знешнасць, адно крыху яе псаваў нос бульбінай. Пасля другога спаткання дзяўчына засталася ў яго на ноч. Не доўга думаючы, Андрэй даў ёй ключ ад кватэры, і Насця перабралася да яго. Дзяўчына жыла з бацькамі і сястрою ва Уручы, адсюль жа ёй было нават зручней дабірацца да працы.

І вось праз месяц пасля таго ў кватэры з'явіўся Вальтэр. Адкуль, з якіх глыбіняў выплыла такая мянушка, ён і сам не ведаў, слова неяк само па сабе сарвалася з вуснаў.

— Вальтэр. Разумееш, я не ведаю тваёй ранейшай мянушкі. Яна ж пэўне была ў цябе, так? Мне падабаецца Вальтэр. Добра? Я зараз у краму, куплю ўсё патрэбнае, а ты ляжы ціха і чакай. Зразумеў?

Берастовіч справіўся хутка. Калі ён адчыніў дзверы, Вальтэр узняўся са свайго месца, радасна завіляў хвастом, тыцнуўся пысаю ў торбу.

— Вось гэта твая міска, корм табе. Пакуль неяк так. Гэта ж і памыць цябе трэба было б.

Берастовіч уздыхнуў. Сапраўды: не было б смутку, дык чэрці ў бярмудку. Але не, цяпер гэта яго гадаванец. Ён насыпаў сабаку корму, паставіў міску з вадою:

— Давай, падсілкоўвайся.

А дзявятай гадзіне ў дзвярах шчоўкнуў замок. Насця спачатку не заўважыла сабаку, а калі згледзела, войкнула ад нечаканасці.

— Андрэй, што гэта?

— Не што, а хто. Знаёмся, гэта — Вальтэр, мой сабака. Не бойся, ён добры, не ўкусіць.

— Твой? — дзяўчына недаверліва скрывілася. — Адкуль ён узяўся?

— Ведаеш, на вуліцы гэтыя гіцалі адлоўлівалі сабак, а Вальтэр кінуўся да мяне. Я проста не мог не дапамагчы яму.

Дзяўчына раптам спахмурнела. Берастовіч заўважыў рэзкі змен у яе настроі.

— Што здарылася, Насця?

— А ведаеш, я не люблю сабак, у мяне ўвогуле алергія на іх.

— Навошта ты так? — Берастовіч падышоў да дзяўчыны, паспрабаваў абняць, але яна адсунулася. — Насця, ты зразумей, каб я яго не забраў, то ён трапіў бы ў часовы прытулак, а пасля яго б усыпілі. Гэта азначае — забілі. Разумееш?

— Чаму ты вырашыў, што ён твой? Можа, у яго ёсць гаспадары і яго шукаюць.

— Наўрад ці каму ён патрэбны. У мяне быў час, я пасядзеў у сетках — аб'явы пра такога сабаку не знайшоў. На ўсялякі выпадак пакінуў аб'яву пра яго, але сумняваюся, што яго хтосьці шукае. Я думаю, што яго проста некалі выпхнулі на вуліцу — пацешыліся і выкінулі.

— Дык ты будзеш усіх сабак з вуліц збіраць?

— Нічога я не буду, Насця, але ж хоць аднаму мы ў стане дапамагчы, разумееш? Шкада яго, загіне. Ён нам не будзе замінаць, — Берастовіч стараўся залагодзіць дзяўчыну.

Насця памаўчала, пасля сама прытулілася да Берастовіча:

— Андрэй, а давай ты яго праганіш. Ну навошта нам сабака: непатрэбныя клопаты дый расходы таксама. Яшчэ мэблю пагрызе. Нам і без яго было добра.

— Насця, як ты не разумееш — я не магу выкінуць на вуліцу жывёліну. Я ж яго толькі падабраў і выратаваў ад смерці. Табе ён таксама спадабаецца, вось паглядзіш.

Насця моўчкі пайшла ў другі пакой. Яна так і не згатавала абяцаную страву. Павячэралі моўчкі тым, што мелася ў лядоўні. Як Берастовіч не спрабаваў разгаварыць Насцю, яна ўнікала яго, мала размаўляла і спаць пайшла асобна. Вальтэр ціха ляжаў у кутку, уважліва сачыў за іх перасоўваннямі па кватэры.

Насця рана падалася на працу. А праз некалькі гадзін Берастовічу прыйшло кароткае паведамленне: «Я або ён. Выбірай».

Берастовіч нейкі час тупа глядзеў на экран смартфона, пасля зірнуў на сабаку і ўпэўненым рухам выдаліў Насцін нумар. Па-першае, ён не любіў ультыматумаў і, па-другое, галоўнае, памятаў, як некалі мама сказала: «Сынок, не можа быць добрым той чалавек, які не любіць жывёл, асцерагайся такіх».

## 3

Вальтэр хутка прывык да свайго кутка, цярпліва чакаў выгулаў, з ежаю не перабіраў — еў усё, што даваў гаспадар. Навучыўся вызначаць настрой гаспадара, як толькі той уваходзіў у кватэру. Калі хлопца нішто не радавала, хацелася плюнуць на гэтае жыццё і занурыцца ў самы глухі кут, сабака падыходзіў да яго, заглядаў у вочы, лізаў руку і з вінаватым выглядам ціха клаўся на сваё месца. І не падыходзіў да таго часу, пакуль яго не паклічуць. Але калі Берастовіч прыходзіў у гуморы — што было, канешне, значна часцей — Вальтэр падскокваў, станавіўся на заднія лапы і стараўся лізнуць гаспадара ў твар. Пасля радасна бегаў па кватэры, круціўся пад нагамі, перашкаджаў рабіць сякія-такія хатнія справы. Але ж Андрэй не злаваўся, а толькі весела адпіхваў сабаку, ад чаго той прыходзіў у яшчэ большае ўзбуджэнне.

І сам Берастовіч нават нейк павясялеў, пажвавеў: з'явіўся сякі-такі клопат, ён стаў больш бываць на вуліцы, а не вылежвацца на канапе, як раней. У ранішні і вячэрні час Берастовіч звычайна гуляў з сабакам у невялічкім парку, бавячы ў добрае надвор'е па дзве-тры гадзіны на свежым паветры. З такімі ж, як і ў яго, гадаванцамі ў ранішні і вячэрні часы там гулялі жыхары бліжэйшых мікрараёнаў.

Яшчэ на першым месяцы сваіх выгулаў ён прыкмеціў дзяўчыну са жвавым рудым спаніелем. Берастовіч упадабаў яе адразу ж: гнуткі стан і доўгія валасы, правільныя рысы твару, — усё гэта прыемна лашчыла мужчынскія вочы, а белыя красоўкі і шэра-бэзавы спартовы касцюмчык толькі падкрэслівалі дзявочыя вабноты. Сабака ж у дзяўчыны, хутчэй за ўсё, быў яшчэ малады, бо ён не мог стаяць на месцы і ўвесь час іграўся з павадка, цягнуў наперад, спрабаваў дагнаць нахабную варону ці сароку, ці абнюхаць іншага сабаку. Гаспадыня зрэдчас пакрыквала на спаніеля:

— Рудзі, стой! Рудзі, фу!

Але Рудзі не надта паслухмяна выконваў яе загады. Дзяўчына злавалася і сярдзіта адцягвала павадок на сябе. Аднаго разу, з некім размаўляючы па тэлефоне, яна не ўпільнавала гадаванца: той вырваўся і паімчаў на здаравеннага чорнага ратвейлера. Ратвейлер натапырыўся і, злосна пырскаючы слінаю, пацягнуў гаспадара насустрач. Як бы нічога страшнага, звычайная сітуцыя для сабачнікаў, але ратвейлер, як на тое, быў без напысніка. Гаспадару байцовага сабакі не раз выгаворвалі за гэта, але ён упарта ігнараваў усе заўвагі, і нярэдка выгульваў апошняга без сродкаў засцярогі.

На крыкі дзяўчыны неслух не зважаў, імчаў, падбрэхваючы тоненькім галаском. Берастовіч зрэагаваў хутка: разам з Вальтэрам кінуўся напярэймы, разумеючы, што павінен паспець. І, сапраўды, ён змог схапіць павадок літаральна ў некалькіх кроках ад узбуджанага ратвейлера. Падбегла ўзлаваная дзяўчына, учапілася за павадок і, трасучы яго канцом перад носам спаніеля, закрычала на яго:

— Нягоднік! Ты што вырабляеш? Я цябе навучу добрым паводзінам. Вось табе, вось табе!

Спаніель жаласліва завішчаў, закруціўся на месцы, а дзяўчына, не зважаючы на віск, падцягнула сабаку да сябе.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Тры жанчыны і сабака

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота ukr.media

— Не трэба, навошта вы так? — спыніў дзяўчыну Анлрэй. — Ён жа яшчэ малады, паразумнее.

— Вось цяпер паразумнее, — дзяўчына павярнулася да яго. — Дарэчы, дзякуй. Каб не вы, то не ведаю, што было б тут.

Тут і адбылося знаёмства. Нэля — так звалі дзяўчыну — жыла ў суседняй шматпавярхоўцы, вучылася на маркетолага. Сабаку бацькі падарылі ёй на васямнаццацігоддзе.

Берастовіч пачаў сустракацца з Нэляй: спачатку яны бачыліся на прагулках, хадзілі побач, выгульваючы сабак, размаўлялі. Нэля нечым нагадвала яму яго былую жонку: такая ж лёгкая на пад'ём, усмешлівая і гарэзлівая. З ёю можна было паразмаўляць на розныя тэмы, абменьвацца думкамі пра навіны і падзеі — дзяўчына ведала даволі шмат. Пасля прагулак у парку, актыўнай перапіскі ў месенджары яны неяк пасядзелі ў піцэрыі, і Андрэй запрасіў дзяўчыну да сябе.

— Праходзь, калі ласка, распранайся.

— А ў цябе даволі ўтульна, — прамовіла Нэля, разглядаючы кватэру, — нават чыста — не скажаш, што тут няма жаночай рукі. А, вось і Вальтэр. Прывітанне, Вальтэр.

Сабака ў адказ вільнуў хвастом.

— Мамы даўно няма, але я не люблю жыць у брудзе, — коратка адказаў Берастовіч.

— Выдатна, спадар сабачнік. Не ўсе мужчыны могуць гэтым пахваліцца.

Вечар абяцаў быць неблагім. Яны пілі віно — такайскае, купленае ў «Еўраапце», мела нядрэнны смак, прыемна адгукалася водарам далёкіх краін. Гучала лёгкая музыка, гэтак жа лёгка было думкам ад выпітага — яны ўзляталі ў паветра і раствараліся ў паўзмроку. Нэля сама пацягнулася да яго. Зліўшыся ў салодкім пацалунку, пайшлі ў суседні пакой. Вальтэр пацягнуўся следам, але Берастовіч адпіхнуў яго і зачыніў дзверы перад сабачым носам. Нейкі час Вальтэр скробся ў дзверы, пакрыўджана павіскваючы. Пасля сціх.

Андрэй угаворваў Нэлю застацца, але дзяўчына адмовілася:

— Бацькі не дадуць спакою, пачнуць тэлефанаваць, а я пакуль не хачу ім нічога тлумачыць. Да таго ж заўтра на заняткі, дый і Рудзі трэба выгуляць. Іншым разам.

Нэля схапіла сваю вопратку і слізганула ў ванны пакой. Берастовіч не настойваў — яму таксама заўтра а восьмай трэба быць на працы. Паляжаў трохі, нетаропка падняўся. Мабыць, і яму трэба вывесці сабаку.

Вальтэр ляжаў на сваім месцы. Запаліўшы святло ў вітальні, Берастовіч ціха вылаяўся. Беленькія дзявочыя красоўкі былі безнадзейна сапсаваныя — сабака добра папрацаваў над імі сваімі зубамі.

— Што гэта?

За яго спіною стаяла Нэля.

— Прабач, я ніколі не думаў, што ён такое зробіць. Не ведаю, што на яго найшло. Я куплю табе новыя.

— Дык ён у цябе таксама нявыхаваны? І ты яго не пакараеш за гэта? — дзяўчына ўтаропілася ў сабаку.

— Як? Не карміць або не выводзіць на вуліцу?

— Мне здаецца, ён заслужыў добрую лупцоўку.

— Ведаеш, біць слабага, а тым больш жывёлу, неапраўдана. Пагадзіся, яны ж не могуць нам адказаць.

— Я не пагаджуся. Кожны павінен адказваць за свае ўчынкі, нават калі гэта сабака. Інакш ён нічога не зразумее…

## 4

Нэля ўзяла грошы за красоўкі, але пасля гэтага выпадку пачала ўнікаць Андрэя. Размова ў іх не клеілася, дзяўчына гаварыла, што кудысці спяшаецца, на выгулах амаль увесь час гаварыла па тэлефоне. Пасля некалькіх безпаспяховых спроб Берастовіч зразумеў, што ранейшыя адносіны не адрадзіць.

Прайшло восем месяцаў пасля з'яўлення ў яго жыцці Вальтэра. Сабака памажнеў, нават паводзіны яго зрабіліся больш павольнымі, спакайнейшымі. Як і раней, нікому не дазваляў спакойна, без боязі, падысці да гаспадара, пільна сачыў за ўсімі, хто набліжаўся да Андрэя. Сябры жартавалі, што ў Андрэя найлепшы целаахоўнік, які і без зброі абясшкодзіць любога ворага. Берастовіч таксама прыкіпеў да сабакі, нават больш, чым некалі да Алекса.

На дні нараджэння ў свайго сябра Алега Берастовіч пазнаёміўся з Вольгаю. Вольга працавала бухгалтарам у невялікай прыватнай кампаніі, прыехала ў сталіцу з Аршанскага раёна, жыла на здымнай кватэры з каляжанкаю. Андрэю яна падалася спакойнаю, разважліваю. Нешматслоўная, сціпла апранутая, але і кампаніі не цураецца, таварыская і прыязная. Гэтым яна адрознівалася і ад яго былой жонкі, і ад тых дзяўчат, з якімі Берастовіч меў блізкія адносіны раней. Спадабалася яму і тое, што яна не «завісала» ў смартфоне, як многія іншыя іх равеснікі. Пасля той вечарыны яны пачалі сустракацца. Спачатку Андрэй запрасіў яе ў кафэ, пасля схадзілі разам у начны клуб, хлапец запрасіў дзяўчыну да сябе. Ён крыху перажываў за тое, як адрэагуе Вальтэр на з'яўленне Вольгі.

Калі дзяўчына ўвайшла, сабака абнюхаў яе і прывітальна вільнуў хвастом.

— Ты яму спадабалася, — зазначыў Андрэй.

— Прыгожы сабака, — адказала Вольга. — Прывітанне, Вальтэр.

Пасля Андрэй з Вольгаю сядзелі на канапе, пілі віно. Вальтэр ляжаў на сваім дыванку ў вітальні. Вольга згадзілася застацца ў яго, і Андрэй узяўся слаць бялізну. Дзяўчына пайшла ў ванны пакой. У гэты момант Берастовіч пачуў пакрыўджаны сабачы віск.

— Вальтэр, ты чаго?

Сабака падышоў да яго, тыцнуўся пысаю.

— Што, Вальтэр? Прагуляцца хочаш? Пачакай, зараз сходзім.

Раніцай Андрэй падняўся а шостай. Вольга яшчэ салодка спала. Ён асцярожна зазірнуў у вітальню. Вальтэр прыўзняўся, пацягнуўся і падышоў да яго. Берастовіч, з палёгкаю ўздыхнуўшы, прылашчыў сабаку: здаецца, усё добра, сабака нічога не пашкодзіў з рэчаў госці.

У хуткім часе Вольга перабралася да яго. Андрэй бачыў, што яна стараецца спадабацца яму: ласкавая і жарслівая ў ложку, спрабуе гатаваць розныя стравы, прыбіраецца ў кватэры. Праўда, з сабакам у яе мінімальныя кантакты, але хлапец не крыўдаваў на тое: кожны мае права выбару, у тым ліку і ў сваім стаўленні да хатніх гадаванцаў. Усё ў іх складвалася добра — так здалося Андрэю. Вальтэр з першага дня рэагаваў на Вольгу спакойна, быццам яна жыла тут даўно, яшчэ да яго з'яўлення ў кватэры. Але ён унікаў дзяўчыны, як і яна яго, стараўся не падыходзіць да яе, можна нават сказаць, абходзіў. Такая абставіна здзіўляла Берастовіча.

Неяк, лежачы ў ложку, Вольга прылашчылася да Андрэя і сказала:

— Андруша, а ты б хацеў стаць татам?

Хлапец прыўзняўся:

— А ты што, ты гэтае самае?

— Ды не, не хвалюйся, пакуль не, я так проста спыталася, — засмяялася Вольга.

— Дзіўнае пытанне — канешне.

— Мне здаецца, калі такое адбудзецца, сабака будзе тут лішнім. Малое дзіця, клопаты, а яго трэба выгульваць. Пасля дзіця падрасце, будзе поўзаць, а тут на падлозе шэрсць, бруд, нават інфекцыя. Уяўляеш?

— Слухай, ты перабольшваеш. Мноства сем'яў з дзецьмі маюць сабак. І, нічога, выдатна сябе адчуваюць.

Вольга нічога не адказала, адно толькі жарсна абняла за шыю.

## 5

Гэта здарылася на чацвёртым месяцы іх сумеснага з Вольгаю жыцця. Ён прыйшоў з працы позна. Зняў красоўкі і здзіўлена застыў: Вальтэр не зрэагаваў на яго з'яўленне, застаўся ляжаць на сваім месцы.

— Вальтэр! Што з табою, га?

Сабака з цяжкасцю ўзняўся, вінавата вільнуў хвастом. Берастовіч падышоў да яго. Так і ёсць — хворы, нос гарачы. Толькі гэтага не хапала…

— Што ж ты, брат, хварэць удумаў? Давай, кладзіся.

Ён зазірнуў у пакой. Вольга глядзела па тэлевізары нейкі серыял.

— Андрэйка, прывітанне, любы. А я не чула, як ты ўвайшоў. Табе падагрэць вячэру?

— Не, дзякуй. Вальтэр захварэў, думаю, што рабіць.

— А што з ім?

— Не ведаю. Ты яго выводзіла?

— Так.

— Ён на прагулцы нічога такога не схапіў, не бачыла?

— Ды не, — Вольга паціснула плячыма, — я яго, праўда, спускала, ён бегаў крыху па кустах.

Што ж рабіць? Ужо позна, хутка поўнач, мабыць, давядзецца чакаць раніцы. Андрэй адкрыў бляшанку з любімым Вальтэравым кормам, наліў вады ў міску.

— Паеш, Вальтэр. Ну, давай.

Але сабака нават і не паспрабаваў ежы. Ён крыху пахлябтаў вады і зноў лёг на месца. Берастовіч заўважыў, што ў яго пачырванелі вочы, дыханне зрабілася цяжэйшым. Андрэй прысеў каля сабакі, прылашчыў. Што з ім адбываецца? Берастовіч цяжка ўздыхнуў.

Уначы ён прачнуўся ад таго, што Вальтэр заскуголіў. Андрэй падняўся. Сабаку званітавала нечым чорным. Усё ж атручванне, вось жа бяда. І як такое магло здарыцца — Вальтэр ніколі не падбіраў нічога з зямлі. Прынамсі, Андрэй не заўважаў за ім такога. Дзіўна.

Вальтэр зразумеў, што зрабіў штосьці дрэннае, таму спрабаваў падлашчыцца, хоць яму было цяжка падымацца. Берастовіч прыбраўся, прысеў каля сабакі.

— Як жа ты так? Што ж ты такое з'еў?

Раніцай Вальтэру пагоршала, ён нават не падымаўся з дыванка. Берастовіч замовіў таксі, паімчаўся ў ветклініку. Ветурач агледзеў сабаку і пацвердзіў атручванне.

— Стан цяжкі. Я паспрабую зрабіць усё, што змагу. Пакінем яго на стацыянары. Глядзець трэба лепш, што ж вы?

Берастовіч няўцямна паціснуў плячыма, яшчэ раз зірнуў на Вальтэра і пайшоў на выхад.

Засмучаны і паглыблены ў непрыемныя роздумы, ён ціха ўвайшоў у кватэру, сцягнуў красоўкі. У суседнім пакоі Вольга з некім размаўляла па тэлефоне. Міжволі Андрэй прыслухаўся.

— Так, канешне. Я думаю, усё будзе добра. Ну а што было рабіць? Таня, уяві: мы пажэнімся, дзіця з'явіцца. А тут гэты сабака: сліна псіная, шэрсць, ад іншых сабак хваробу яшчэ якую прывалачэ. Ой, і не кажы. Я яго з першага дня мусіла трываць толькі дзеля Андрэя. Не, Андрэй класны, не тое што іншыя: уважлівы, клапатлівы, не выпівае, не зануда. І кватэра трохпакаёвая. Супер. Ну, трохі папераЖывае і забудзе…

Яна выйшла ў пакой і, убачыўшы агаломшанага Андрэя, зразумела, што той чуў размову.

— Андрэйка, любы, усё не так, як ты падумаў. Вальтэр штосьці з'еў у кустах. Я табе проста казаць не хацела, каб не засмучаць. Праўда. Андрэйка, ты што, не верыш мне?

Берастовіч ледзь стрымаўся. Ён чакаў чаго заўгодна, толькі не такой жорсткасці і подласці.

— Не падыходзь да мяне. Каб праз паўгадзіны цябе тут не было.

Збіраючы прыхапкам свае рэчы, Вольга намагалася ўгаварыць Андрэя, але той не рэагаваў на яе словы.

— Усё роўна ён здохне. А ты будзеш жыць адзін, бо ты — дурань. Табе сабака даражэй за чалавека. Ты яшчэ пашкадуеш, на каленях да мяне прыпаўзеш. Я ж для цябе ўсё зрабіла, а ты…

— Ключ пакінь.

— Ды пайшоў ты…

Вольга бразнула дзвярыма. У кватэры павісла гнятлівая цішыня.

Праз нейкі час патэлефанаваў ветурач і паведаміў, што яны не змаглі выратаваць сабаку: доза атруты была вялікай, а дапамога спазнілася.

Прайшло два месяцы. Андрэй звыкла хадзіў на працу, звыкла штосьці гатаваў, звыкла рабіў няхітрыя хатнія справы. Больш ні з кім не знаёміўся і не заводзіў сабаку.

Апоўдні ён ішоў па звычайным базарчыку, якіх цяпер хапае ў кожным мікраёне. Каля выхаду яго спыніла жанчына пенсійнага ўзросту ў выцвілай сіняй куртцы:

— Малады чалавек, вазьміце сабачку. За так, без грошай.

Андрэй азірнуўся. Каля ног жанчыны стаяў невялікі кошык, у якім варушылася і павіскваля трое чорных маленькіх шчанюкоў.

— Вазьміце, яны нявелькія вырастуць. А то я не дагледзела, і мая сучка прывяла другі раз за год, каб яе халера. Паглядзіце, якія харошанькія.

Яна падхапіла аднаго са шчанюкоў. Той гучна завішчаў у яе руках: малы і безабаронны.

— Не, дзякуй, не трэба.

Берастовіч хуткім крокам падаўся прэч. На прыпынку спыніўся, глянуў на гадзіннік. Хутка павінен быць тралейбус. Увагу Андрэя прыцягнуў белы аркушык, што трапятаўся на слупе.

«Прытулак для жывёл “Шанец” просіць аб дапамозе. У нас каля пяцідзесяці кінутых сабачак і коцікаў, усе яны маюць патрэбу і ў ежы, і ў сродках гігіены. Нам патрэбна любая дапамога. Калі ласка, падтрымайце нас, не дайце загінуць жывёлам».

Пад гэтым допісам на надрэзаных кавалачках паперы было імя — Дар'я — і тэлефонны нумар. Андрэй літаральна нейкае імгненне павагаўся, пасля адарваў адзін кавалачак. Потым падумаў і адарваў яшчэ адзін. Для надзейнасці. Ён абавязкова патэлефануе Дар'і і дапаможа. Як жа інакш?

# Неба наша



Янка ТРАЦЯК

### Пракімен

*Для славы, велічы, падзей
патрэбны стымул...
А Ён прайшоўся па вадзе...
і след пакінуў...*

*І што б не думаў, не рабіў, —
а Ён адзіны...
Сказаў так проста: «Палюбі...», —
і след пакінуў.*

*Дзеля чаго такі гамбіт,
дзе здзекі, кпіны...
Каму казаў Ён: «Не забі...», —
ад іх і згінуў...*

*Праз іх узняты на крыжы
чытаў пракімен...
І крываточыць у душы,
як шрам пакінуў.*

### Такі чалавек...

*Калі што якое — надзея на Бога,
бо кожнаму трэба
(а што тут такога?..),
і кожны шукае сабе апраўданне,
і міфы складае, казкі, паданні...*

*Жыве чалавек праз надзеі, сумневы,
дзе чорны і белы, дзе правы і левы,
дзе радасці болей, ці радасці меней...
Калі дзе ёсць геній, дык ён —
гэты геній!*

*І прыйдзе той час —
і ён будзе абраным,
пакліканым будзе
і будзе прызнаным...
І кожны мяркуе таемна у сэрцы:
канец будзе свету —
а ён застанецца!*

***

*Трымцяць і блёкнуць зоркі
на зары
Знікаюць ціха ў першых промнях
золку...
Бывае так да часу,
да пары...
І стрымгалоў сарвецца з неба
зорка.*

*І нехта скажа, пэўна, лёс такі,
Душа прыспешыць з мараю
пад поўню.
І будуць цешыць вобраз мастакі, —
Каб кожны знаў,
каб ведаў
і каб помніў.*

*Як не гадай і што не гавары, —
Momento more — ранішняя зорка...
Так і жыццё
няспешна дагарыць
Ці знічкай раптам знікне
за пагоркам.*

### Гісторыя мáту

*У будні альбо святы
І хлопцы, і дзяўчаты,
І дзеці, мамы, таты
Навокал крыюць матам.*

*І так было прынята...
Дабрыня і Пуцята
Хрысцілі Русь заўзята
Крыжом, мячом... і матам.*

*А тут чужак праклятты,
Паскудны, злы, паддаты,
Лез д'яблам проста ў хату
І крыў ён страшным матам.*

*Матросы і салдаты,
Саветы, дэпутаты
Саюз стваралі гвалтам
Штыком, этапам, матам.*

*Палітык, інфарматар,
І нехта людзьмі кляты
У камунізм заціяты
Людзей вялі пад маты.*

*Быў кожны вінаваты,
Народ быў, дэмакраты...
Дзе што калі — за краты
Праз маты і пад маты.*

*І так бамжы, сатрапы
І нехта з дэпутатаў,
І нехта маразматык —
Не могуць жыць без матаў.*

*Прывёў цытату з матам
І нешта там з Сакрата —
І член у кандыдаты
Без школы, альма матэр.*

*Прывёў цытату з матам —
І ў полі жыта зжата,
І выдалі зарплату,
І ёсць сто грам на брата.*

*Прывёў цытату з матам
Там нейкі ўзурпатар —
Спалохаліся Штаты,
Спалохалася НАТА!*

*Не трэба слоў багата,
Была б цытата з матам...
І ходзяць тут прыматы,
І што ні слова — маты.*

*І так у будні, святы
І хлопцы, і дзяўчаты,
І дзеці, мамы, таты
Навокал крыюць матам.*

### Неба наша стала шэрым...

*Ці той меркаю мы мерым,
ці жывём з праклёнам...
Неба наша стала шэрым, —
стала ў хатах цёмна.*

*Стала ў хатах нашых цесна —
мэбля, кухня, ванны...
Богу ў хаце няма месца,
дзе рычаць экраны.*

*Сцэны гвалту, колькі злосці...
Не жыццё, а пекла...
Ціха толькі на пагосце,
ціха там і блекла.*

*Для чаго жыццё даецца,
глянь, не ўсё так проста...
Кожны знойдзе сабе месца —
метры два пагосту.*

### Нячыстая сіла

*Над грэшнай зямлёй мітусня
у змярцвенні,
суцэльная немач
над кожнай магілай...*

*Як прывід стагоддзяў —
чырвоныя цені
нячыстае сілы, нячыстае сілы.*

*Спакусы зямныя працяты
атрутай,
і грэхам смяротным*



Фота pixabay.com

*спакушаны жылы...
Адкуль ідуць беды, няшчасці,
пакуты?
Адкуль гэта злая,
нячыстая сіла?*

*І неба глядзіць як вачыма
айчыма,
І зайздрасць, і прагнасць —
такі свет пахілы...
І стогне, і плача зямля
і айчына, —
скуголіць і вые нячыстая сіла.*

*А дзе ж Яго воля,
а дзе ж Яго дзіва?..
Ці верылі мала,
ці мала прасілі?
Ці, можа, няшчыра махалі
кадзілам?..
І правіць свой баль тут
нячыстая сіла.*

### Йшлі пракокі на галгофу...

*Не зайздросны лёс пракокаў —
распіналі іх навокал...
Колькі іх у Богу хросных
апантаных і ўзнёслых,
прасвятлёных Усявышнім,
як узор,
як светач іншым
дасканаліць свет бясконцы
верай, розумам і моцай...
Распіналі іх навокал —
лёс такі і рок пракокаў.*

*Не зайздросны лёс празорцаў
і святых, і міратворцаў,
прасвятлёных ды увішных —
іх жыццё — як прыклад іншым.
А жыццё іх шмат што значыць,
каб змяніць свет, перайначыць,
дасканалым быць,
быць вольным,
і не быць рабом ніколі...
Не зайздросны лёс празорцаў —
распіналі іх бясконца...*

*Яшчэ горшы бачым лёс тых,
хваравітых, млявых, млосных,
абыякавых, бязлікіх,
невядомых і паніклых,
хто прывык да цемры й плачу,
хто не хоча сонца бачыць,
дзе прарок — ніхто у часе,
дзе насельніцтвы і масы,
і нікчэмныя запросы...
Яшчэ горшы маем лёс тых...*

*У жыцці народаў розных
часта лёс бывае слёзным...
Толькі слёзы слепяць вочы,
заглушаюць кліч прарочы:
ці паўстаць, ці легчы крыжам,
абы выжыць... абы выжыць!
...У час войнаў, катастрофаў
уздымалі на галгофу
і прарокаў, і празорцаў —
тых, хто з цемры вёў да Сонца.*

***

*У вечным — не да вечнасці, —
Выходзяць часу светачы.
Надзею толькі цешу я,
Але ці прыйдуць лепшыя?..*

*Тут неба вісне шэрае,
І дзень ідзе зняверыаны...
У стане постмадэрнасці
Не геніі — нэпэўнасці...*

*Ідзе там нехта з рупарам,
І не герой, не супермэн...
Як не гадай, не мерай ты —
Брыдзе кабылка шэрая...*

### Мост

*Гаспадар дзе,
дзе госці? —
Разабрацца ніяк,
Бо жывеш ты на мосце,
дзе сусветны скразняк.*

*Няма месца на возе
(так бывае часцей), —
ці сядзіш на парозе,
ці стаіш у хвасце...*

*Ці завіс на варотах,
ці стаіш у дзвярах —
ці страляюць употай,
ці б'юць прама — у пах.*

*Тут рабіць трэба штосьці,
колькі ты не ілжы...
Не хачу жыць на мосце!
Не хачу — на мяжы!..*

*Дык чаму ж невясёлы?..
А як быць весялей —
толькі грукаюць колы,
толькі бразгат дзвярэй...*

***

*Як ты не варажы —
Богу богава,
дзе не толькі крыжы,
з перамогамі,
дзе ахвярнасці Кон —
сімвал вечнасці,
дзе Закон і паклон
чалавечнасці.*

*Непаладка — рэжым:
толькі кесару,
дзе не тыя крыжы,
дзе агрэсары,
дзе ахвярнасці скон —
пераменнасці,
дзе закон і паклон
штучнай вернасці.*

*Дзе ізноў міражы —
чалавечае,
адны й тыя ж крыжы,
і не вечнае,
дзе ахвярнасць і згон —
сімвал чыннасці,
дзе закон і паклон
хуткаплыннасці.*

*Тут і там — на мяжы:
зямля грэшная,
дзе не толькі крыжы,
несуцешнае,
дзе ахвяра спакон —
малазнакавасці,
дзе Закон і паклон
абыякавасці.*

# Шарль Пэро – без ка́зак

Андрэй ЦУНСКІ

Імя Шарля Пэро (Charles Perrault, 12.01.1628—16.05.1703), які нарадзіўся 395 гадоў таму, а пакінуў грэшны свет — 320, выклікае перад чытачом вобраз добрага дзядулі-казачніка. Але хто б з яго сучаснікаў больш за ўсіх здзівіўся гэтаму, — дык ён сам…

Ці ведаеце вы, што такое «меркантылізм»? «Вельмі ўжо ён меркантыльны!», «Нельга ж быць такім меркантыльным», — паступова, набіраючыся вопыту і эрудыцыі, з малых гадоў дзіця пачынае ўсведамляць, што пад гэтым словам часцей за ўсё разумеюць кагосьці прагнага. Так мы спасцігаем значэнне складаных замежных слоў і іх спрашчаем.

Пры чым тут казкі? Тым больш усімі любімыя казкі Шарля Пэро? Там, вядома, ёсць прагныя-меркантыльныя персанажы, але ж казкі не толькі пра гэта. А між тым, менавіта меркантылізму Шарль Пэро абавязаны сваім кар'ерным узлётам, роўна як і падзеннем з занадта крутых службовых прыступак.

## Некалькі слоў пра аднаго прайдзісвета

Як скончыў свае дні заступнік французскага баснапісца Жана дэ Лафантэна — Нікаля Фукэ? Яго арыштаваў д'Артаньян — не той, які вярнуў каралеве падвескі і сябраваў з трыма мушкецёрамі, а сапраўдны, кар'ерыст і майстар тых слізкіх даручэнняў сваіх апекуноў, якія не выконваюцца ў белых пальчатках. Ну, у выпадку з Фукэ д'Артаньян дзейнічаў выключна на карысць Францыі — бо такі казнакрад і прайдзісвет нават у французскай гісторыі часоў абсалютнай манархіі стаіць асабняком. Фігуры, здольныя наблізіцца да яго па маштабе, з'явяцца толькі ў часы Вялікай французскай рэвалюцыі. Ну ды ў рэвалюцыі для гэтага часам і розуму асаблівага не патрабуецца — хіба што нахабства. Але гісторыю Фукэ варта асвяжыць у памяці яшчэ раз. Гэты вельмі спрытны дзяляга патрапіў у арбіту ўсемагутнага кардынала Мазарыні. Той рэкамендаваў каралю зрабіць свайго пратэжэ суперінтэндантам — папросту кажучы, міністрам фінансаў Францыі. Першыя часы чыноўнікі спрабавалі неяк стрымліваць «выдатныя парывы» новага начальніка, але самі талковы з іх, нейкі Сервіен, памёр — саракапяцігадовы міністр ужо не цадзіў луідоры праз дзірачку ў дзяржаўным грашовым мяшку, а зусім распусціў дно гэтага мяшка па швах. Да яго прыходзілі падрадчыкі, міністры, вайскоўцы — з даручэннямі ад караля. «Грошай няма, але вы… — не, не тое, што вы падумалі, не трэба думаць штампамі — вазьміце асігнацыю! Паперка каштоўная!» — адказваў ім міністр, і з гэтай паперкай падрадчыкі і міністры ішлі ў прыватныя банкі, куды ўжо даўно патрапілі фонды, выдаткаваныя Фукэ «на патрэбы дзяржавы». «Асігнацыю» прадавалі банкірам, а банкіры канфіскоўвалі з перакладзеных ім сродкаў велізарныя сумы сабе асабіста — але, зразумела, ладную долю даводзілася аддаваць усёмагутнаму Фукэ. А каб зашыць дзірку ў казне, саноўны весялун не саромеўся займаць у свайго дабрадзея Мазарыні.

Але важна згадаць, на што ж марнаваў казённыя сродкі міністр Фукэ. На палац Ва-ле-Віконт у Фантэнбло (элегію, прысвечаную гэтаму палацу, пісаў, у прыватнасці, Лафантэн), на калекцыю твораў мастацтва, на прыгрэтых пры сабе музыкаў, паэтаў і пісьменнікаў, сярод якіх былі Лафантэн, Лебрэн, Мальер.

Фукэ падаў прыклад… каралю. І не нейкаму — а каралю-Сонцу Людовіку XIV, абсалютнаму з абсалютных манар-



Партрэт Шарля Пэро, 1672 г.

хаў! Неўзабаве той запоўніць Луўр карцінамі, статуямі, габеленамі, заахвоціць фінансава пісьменнікаў і паэтаў.

## Як змена міністра фінансаў часам уплывае на літаратурны працэс

Калі фінансавыя майстэрствы Фукэ перасягнулі ўсе самыя смелыя фантазіі, кардынал Мазарыні вырашыў не адразу падымаць шум, а спачатку сабраць пабольш звестак аб схемах крадзяжу. Для гэтага патрабаваўся чалавек скрупулёзны, разумны і адданы. Такі ў яго быў, звалі яго Жан-Батыст Кальбэр, ужо дзесяць гадоў служыў ён у Мазарыні кіраўніком яго немалой маёмасцю і грашыма. Калі кароль абурыўся спробай Фукэ спакусіць ягоную палюбоўніцу, перад усемагутным міністрам і з'явіўся другі лейтэнант каралеўскіх мушкецёраў д'Артаньян. Характэрная дэталь: пачуўшы, чаго ад яго патрабуюць, д'Артаньян запатрабаваў у караля пісьмовага загада на арышт. Такая была ўлада Фукэ! Судовы працэс над міністрам фінансаў Францыі доўжыўся тры гады — і прысуд прагучаў дзякуючы намаганням Кольбера. Яму потым і даверылі дзяржаўныя фінансы. Гэты чалавек адрозніваўся ад Фукэ як дзень ад ночы. Кальбэр працаваў па пятнаццаць — шаснаццаць гадзін, не краў, у інтрыгах не ўдзельнічаў і не звяртаў на іх увагі, на прыём да караля не прыязджаў у карэце, а… прыходзіў пешшу.

Паводзіны Кальбэра былі надзвычай экстравагантнымі. Кардынал Мазарыні, паміраючы, слабым голасам вымавіў каралю, які прыйшоў з ім развітацца: «Ваша Вялікасць! Я абавязаны Вам усім, але, здаецца мне, я да пэўнай ступені выплочваю свой абавязак Вашай Вялікасці, бо пакідаю вам Кальбэра». І гэта не проста словы. Кальбэр змяніў сістэму падаткаабкладання Францыі, зрабіўшы яе прагрэсіўнай, не заахвочваў, а адкрыта насаджаў будаўніцтва мануфактур, вёў палітыку пратэкцыянізму ў дачыненні да французскага вытворцы, змагаўся з казнакрадствам і ўхіленнем ад падаткаў з дапамогай вельмі жорсткіх пакаранняў — ажно да смяротнага. Ён угаворваў караля: дзяржава тым мацнейшая, чым больш у ёй грошай, чым шырэй і разнастайней яе экспарт, чым хутчэй расце ў ёй колькасць талентаў і спецыялістаў. Ён запэўніваў, што трэба забіцца пра рэлігійную варожасць, запрашаць больш замежных майстроў, навукоўцаў, дзелавых людзей, заахвочваць прамыслоўцаў.

Але аднойчы яго ў цэлым добрыя ідэі разбіліся аб апантанасць караля да раскошы двара, якая патрабавала намаганняў усёй дзяржавы, аб бясконцыя войны, якія вёў кароль-Сонца. І ўжо сапраўды абсалютная манархія робіць абсалютна немагчымай барацьбу з карупцыяй. На пахаванні Кальбэра натоўп ненавіснікаў прарвецца да труны, і ўзнікне цісканіна з жадаючых штурхнуць тую труну або плюнуць на яе.

Але гэта ўжо не нашая тэма. Нам важна тое, што Кальбэр выступаў за мастацтвы і навукі, лічачы іх надзвычай карыснымі для дзяржавы. Гэта з яго падачы Людовік XIV заснаваў Французскую акадэмію навук, Акадэмію архітэктуры, Парыжскую абсерваторыю, — але больш за ўсё цікавіць нас Акадэмія надпісаў і прыгожага пісьменства, бо ў яе складзе апынецца Шарль Пэро, якога мы сёння і ўспамінаем — і для гэтага апісаў я час, у якім Пэро жыў…



Партрэт караля Францыі Людовіка XIV

## Акадэмія на́дпісаў, ну трэба ж…

1663 год. Кальбэр яшчэ не міністр. Кароль Францыі ліквідаваў пасаду міністра фінансаў, вырашыўшы заняцца імі сам. Але стварыў камітэт па фінансах, куды ўвёў і Кальбэра. Кальбэр — яшчэ і сюрынтэндант Каралеўскіх пабудоў, мануфактур, міністр прыгожых мастацтваў. У яго руках — грандыёзная ўлада. У галіне мастацтваў Кальбэр прытрымліваецца тых жа прынцыпаў, што і ў сферы эканомікі, вытворчасці і фінансаў: кантроль, дысцыпліна і поўнае падпарадкаванне затрат і здабыцця мэты. У яго ёсць цэлы штат памочнікаў, і па літаратурнай частцы яго першы асістэнт і дарадца — шасцідзесяцівасьмігадовы паэт, перакладчык і крытык, член Французскай акадэміі Жан Шаплен.

Шаплен да таго часу звярнуў увагу на маладога Шарля Пэро — брата вядомага архітэктара Клода Пэро. Разумны, ветлівы, абыходлівы, паважлівы. Ну не задалася ў хлопца адвакацкая кар'ера — дык не ўсім жа быць юрыстамі. Ён літаратар, і слава яго наперадзе, прычым менавіта на гэтай ніве. Ёсць, праўда, праблема. Фукэ. Так-так, той самы Фукэ, якога арыштавалі. Ён таксама шанаваў талент Пэро, яго камедыю «Сцэны Троі, або Паходжанне бурлеска». Шаплен прасоўваў свайго маладога сябра ў высокія чыноўнікі, бо ў эпоху абсалютызму кар'ера літаратара робіцца амаль як ваенная ці міністэрская.

Вышыня кар'ерных дасягненняў вызначаецца магутнасцю заступніка. Шаплен прапанаваў Кальбэру ўвесці ў спіс Камітэта літаратараў, які стварaўся ў краіне, і Шарля Пэро. Пэро ўставілі ў спіс — але толькі ў якасці кандыдата. Каб вызначыцца канчаткова, Кальбэр даў Пэро даручэнне (загад) напісаць п'есу ў прозе аб куплі Людовікам XIV горада Дзюнкерк — каб праславіць гэты велічны гістарычны эпізод. (Хто цяпер пра яго памятае ці хоць бы чуў пра яго, акрамя, зразумела, жыхароў Дзюнкерка?) Калі п'еса была гатова, яе акуратнейшым чынам перапісалі выдатную, з тонкай цэлюлозы, паперу, самую дарагую, якая нагадвала па фактуры скуру ненароджаных цялят. Даражэй любога пергаменту… Па тэксце наняты мастак зрабіў віньеткі і некалькі ілюстрацый, загалоўкі і буквіцы былі выпісаны пазалотай. Кальбэр ацаніў усё гэта. Шарль Пэро быў унесены ў чыноўніцкі спіс на поўных правах, атрымаў дзяржаўную пасаду ў Камітэце літаратараў, свой кабінет і некалькі памочнікаў.

Калі Французская акадэмія стваралася для аб'яднання нацыі і, у прыватнасці, устанаўлення адзіных нормаў французскай мовы, то Камітэт літаратараў — гэта ведамства, якому трэба будзе ўсхваляць Людовіка XIV і ўсіх наступных каралёў. Шаплен ужо не спраўляўся з ускладзенымі задачамі па ўзросце. Амаль уся праца легла на плечы Шарля Пэро. Ён апынуўся на пасадзе сакратара Акадэміі на́дпісаў і прыгожага пісьменства.

Заканчэнне на стар. 10 »

# Шарль Пэро – без ка́зак

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

### Надпісы — на першым месцы

З самой назвы Акадэміі відавочна вынікае, што надпісы — важней. Да таго ж Пэро служыць асабістым сакратаром Кальбэра. Ён вядзе запісы нарад свайго патрона ў Радзе па справах будаўніцтва, займаецца стэнаграмамі абмеркавання новага падатковага рэгламенту, заняты пытаннямі дастаўкі пітной вады, развіцця каралеўскай мэблевай мануфактуры, арганізацыі святаў…

У дзень прыдворнага заробку Шарль Пэро атрымаў кош з сотняй экю. Сума вельмі вялікая — столькі ў Акадэміі не плацяць. Гэта падарунак з намёкам. Аванс. Ах, вы, месье, літаратуры хацелі? Будзе вам і літаратура. Які надпіс можна лічыць акадэмічным? Калі вы падумалі, што Акадэмія наўрад ці займаецца распрацоўкай правіл нанясенні графіці на сцэны, вы не памыляецеся.

Працу Акадэміі курыруе не толькі Кальбэр — а асабіста манарх. Ён лічыць дзяржаўнай справай якасць надпісаў — тых, што на медалях, помніках, гербах. Сам кароль пры гэтым — адзін з самых культурных манархаў у свеце. Ён нават рэгулярна мыецца. Кожны год, увесну… Менавіта ў яго эпоху бурна развіваецца парфумерыя і кравецкае мастацтва. Найвялікшы з Луі агідна пахне — у яго рэгулярна «расстроены» страўнік, і адмыслова для караля распрацоўваюць стыль падштаннікаў «брэ» — са шчыльнага шоўку з завязкамі на штанінах…

Аднак да надпісаў. А да іх пачалі прад'яўляць зусім новыя патрабаванні! Хопіць рабіць надпісы на латыні! Што ў нас — сваёй мовы няма? Які сэнс рабіць надпісы, калі іх разумеюць адны папы ды юрысты? Акрамя таго, ёмістасць, вобразнасць, запамінальнасць. І вось Кальбэр перадае свайму сакратару даручэнне: тэрмінова патрэбен дэвіз для самога спадчынніка прастола — дафіна. Яму ўжо тры гады, а дэвіза няма!

Амаль усе сябры Акадэміі прапануюць варыянты. Але перамагае такі: «Il en vaut plus d'un» — гэта значыць: «Каштуе даражэй за іншых». Аўтар — натуральна, Шарль Пэро. Ён выдатна зразумеў правілы гульні, гатовы па іх жыць і паспяхова жыве. Ён, а ніхто іншы, прапануе Кальберу стварыць Бюро славы караля, — гэтую ўстанову пазней назавуць Малой акадэміяй. Ён сам і стане яго фактычным кіраўніком. А стварыць структуру — значыць атрымаць на яе фінансаванне, а ў эпоху Кальбэра гэта значыць: не цягнуць яе ў банк, а атрымаць жывыя грошы.

У Шарля Пэро з'яўляецца кабінет у цэнтры Парыжа — у самім Луўры. Бюро каралеўскай славы сапе і працуе. Аднак характар яго працы адметны. Гэта, як пісаў Дзюма, «Цюрэн, Кандэ, Кальбэр, Летэльє, Лувуа, Карнэль, Мальер, Расін, Лебрэн, Пэро і Пежэ ўзвысілі яго да вышыні свайго генія, і Людовіка XIV пачалі называць вялікім каралём».

Аднак у Шарля Пэро і састарэлага паэта, члена Французскай акадэміі Жана Шаплена былі і іншыя клопаты. Штогод яны складалі спіс з некалькіх дзясяткаў імёнаў. Эд дэ Мезеры — 4000 ліўраў, Карнэль — 2000, Мальер — 1000 ліўраў, Буало — 1000 ліўраў. Кароль падпіша — і ашчаслівіць пайменаваных названай сумай. Памер сумы вызначаецца яго сімпатыяй. Аднойчы паэту і тэарэтыку класіцызму Нікала Буало адмовяць у «стыпендыі». Але кароль быў ні пры чым: Буало меў неасцярожнасць насміхацца з Шаплена. Баснапісец Лафантэн адмовіўся адрачыся ад апальнага Фукэ — і яго




Фота wikipedia.org

Партрэт Шарля Пэро ў мантыі члена Французскай акадэміі (XVII ст.)

прозвішча неадкладна выкрасляць са спісу на стыпендыі. Уявілі, можа быць, што ў казку патрапілі!

Шарль Пэро кожны дзень чытае свежыя газеты і кнігі, якія дастаўляюць з друкарняў. Трэба сачыць за парадкам. Ён не цэнзар — ёнварты большага. Цэнзар можа толькі ўказаць, чаго пісаць нельга. Пэро ж мог паказваць, як пісаць трэба. А ён жа і насамрэч ведае: «Кальбэру было паказана сорак восем дэвізаў для габеленаў: шаснаццаць абата дэ Бурс, шаснаццаць абата Касаня і шаснаццаць маіх. Усе яны былі перамяшаныя дзеля таго, каб ён мог выбраць, не ведаючы, хто аўтар кожнага. Ён адабраў чатырнаццаць — яны ўсе належалі мне. Я быў вельмі рады. Затым Кальбэр папрасіў паказаць два мае дэвізы, якія засталіся, і калі я іх паказаў, ён сказаў: "Гэтыя два мне таксама вельмі спадабаліся, трэба іх далучыць да астатніх, каб усе былі вашымі"».

### Пісаць трэба так, каб падабалася каралю

1664 год. Шарль Пэро атрымлівае асабняк у Парыжы. Людовік XIV пачынае будаўніцтва загараднаага палацу — Версаля — і рамонт парыжскай рэзідэнцыі — Луўра. Хоча аб'явіць конкурс на лепшы праект яго ўсходняга фасада. Выйграе конкурс Клод, брат Шарля Пэро, у якога сам Шарль некалі служыў канторшчыкам. Даведаўшыся, што праект з каланадай створаны братам Пэро, Кальбэр ганарыцца сваім памочнікам. А неўзабаве ў Шарля Пэро з'явіцца ўласны замак… А вось старэйшаму брату — П'еру — цяжка. Ён быў зборшчыкам падаткаў яшчэ пры апальным Фукэ. Шарль Пэро звярнуўся да патрона Кальбэра.

«Я доўга пераконваў яго, прыводзячы розныя довады, але ўсё гэта не спадабалася Кальбэру, і ён параіў мне займацца сваёй справай і падумаць, ці змагу я далей працаваць у будаўнічай службе, і калі я гэтага хачу, то не гаварыць з ім больш аб справах брата. Я адказаў, што няма ў мяне іншага выйсця, як замаўчаць і цалкам падпарадкавацца яго волі. "Ваш брат вельмі разумны чалавек, я даўно яго ведаю, і ён ведае, што я ягоны стары сябар. Але гэтая прадзелка, якую ён учыніў…" Я спытаў, пра што гэта ён. "Пра тое, што ён грашыма гэтага года наполову пагасіў старыя даўгі, а цяпер патрабуе іх цалкам вярнуць". — "Як! — закрычаў я. — Ці можаце вы думаць такое пра чалавека, якога даўно ведаеце і называеце сябрам? Мой брат пераносе беднасць, але не вынесе, калі ў вашых вачах праславіцца несумленным чалавекам!" Я сышоў».

Зрэшты, Шарль Пэро не сышоў. Яго службовае жыццё ішло зусім нядрэнна. Яму выдзелены асабістыя апартаменты ў Луўры і Версалі — такіх людзей кароль трымае паблізу. У яго ўласнасці восем зусім нядрэнных дамоў у Парыжы. Нарэшце, яму дастаецца замак Разье.

Кар'ера прынесла свой салодкі і пажыўны плён. Удача была з ім цэлых дваццаць гадоў. Але ёй таксама надакучаюць адны і тыя ж людзі. Часам яе і трэба своечасова адпускаць далей — вось толькі на прыдворнай службе гэта немагчыма.

### Ніколі не стаўце працу вышэй сям'і

У 1683 годзе памёр Кальбэр. Справа яго ў шматлікіх сэнсах памерла раней. Ён мог бы змірыцца з многім — толькі б працягвала квітнець Францыя і захаваў бы давер да яго кароль. «Я б хацеў, каб праекты мае прыйшлі да шчаслівага завяршэння, каб у каралеўстве панавала багацце, каб у ім усе былі задаволеныя, і няхай у мяне, пазбаўленага пасадаў і ўшанаванняў, аддаленага ад двара і спраў, расце трава ў двары», — гэта яго ўласныя словы. На жаль — Францыя не квітнела, а кароль… «Наогул, нянавісць да Кальбэра была надзвычай моцная: Людовік XIV яго ненавідзеў таму, што Лувуа і спадарыня дэ Ментэнон яго ненавідзелі, а таксама таму, што ён заслугоўваў імя Вялікага; шляхетныя вяльможы ненавідзелі яго таму, што ён з простага чалавека стаў знакамітым і наймагутным вяльможам свайго часу; грамадзяне ненавідзелі яго таму, што ён загадаў знішчыць штогадовыя даходы, якія атрымлівае гарадская дума; нарэшце, чэрнь ненавідзела яго таму, што ён быў багаты і магутны».

А нянавісць да Кальбэра аўтаматычна распаўсюджвалася і на яго найбліжэйшых паплечнікаў. Адным з першых быў Шарль Пэро. «…Пасля смерці Кальбэра Шарпанцье, абат Тальман, Кіно і я паехалі ў Фантэнбло, каб спытаць у Лувуа, які змяніў Кальбэра, ці не адрадзіць нам ранейшую Малую акадэмію… Той заўсёды жартаваў з гэтай Акадэміі, кажучы, што нельга знайсці горшы спосаб марнаваць грошы, чым, падобна Кальбэру, на аплату працы выдумшчыкаў рэбусаў, надпісаў і вершыкаў. Але тут ён чамусьці памяняў свае погляды і сказаў сыну, што Акадэмію трэба адрадзіць і захаваць. Лувуа спытаў, колькі іх. "Нас чацвёра!" — адказалі яны, назваўшы і мяне. Лувуа сказаў: "Не можа быць! У яго даволі спраў у будаўніцтве!" Двойчы Шарпанцье называў маё імя і двойчы Лувуа падвышаным тонам падкрэсліваў, што я не з'яўляюся членам Акадэміі. …Вось так я быў выключаны з Малой акадэміі, дзе, вядома, з задавальненнем працягваў бы працаваць, але трэба было перажыць і гэтае прыніжэнне».

Прыніжэнняў такіх было шмат. Некія пасады за Шарлем Пэро захаваліся, паўнамоцтваў і прывілеяў значна паменшала. Бюракратыя імкнецца тым не прадстаўнікам, хто пакуль не арыштаваны, захоўваць ранейшы лад жыцця і ўжо тым больш не пазбаўляць апошняга. Зноў жа — замак, дамы. Але ўсё збольшага было дрэнна.

Сусальныя біяграфіі Шарля Пэро ў дэталях і фарбах падаюць гісторыю яго позняй жаніцьбы, ранняга ўдаўства, смерць дачкі, гібель сына на вайне. На жаль — усё так. Вельмі горка, калі чалавек вяртаецца ў сям'ю з працы, як з вайсковага паходу — і выяўляе ў хаце астылы агмень, халодную пасцель і мёртвую цішыню ў дзіцячай. З Шарлем Пэро гэта здарылася не адразу — але




Першае рукапіснае выданне кнігі «Спадар кот, або Кот у ботах» Шарля Пэро, 1695 г.

гора, расцягнутае ў часе, яшчэ цяжэйшае, калі яно, хоць бы ненадоўга, не змяняецца шчасцем. Спачатку памерла жонка, праз сем гадоў — зусім юная дачка, а адзін з трох сыноў загіне на вайне, развязанай каралём, каб адцягнуць народ ад думак пра галечу і несправядлівасць. Тым самым каралём-Сонцам, якому Пэро ўсё жыццё аддана служыў, спадзеючыся, што манарх прывядзе яго радзіму да багацця, міру і росквіту.

Шарль Пэро шукаў суцяшэння ў літаратурнай працы, але таму, хто ўсё жыццё складаў хвалебныя оды і надпісваў медалі, гербы і габелены — пісаць было цяжка. Яго стараліся падтрымаць таварыны па Акадэміі.

Менавіта тады і з'явіліся на свет «Казкі матухны Гускі», якія мы ўсе ведаем з дзяцінства, «Чырвоны Каптурок», «Сіняя барада», «Кот у ботах».

### Прыдворны фенікс

Калі ў выніку цэлай сеткі інтрыг Людовік XIV пачаў кіраваць яшчэ і Іспаніяй, Шарль Пэро узбадзёрыўся. Ён ведаў, што рабіць, і галоўнае — ведаў, як рабіць! Неадкладна ён піша «Оду каралю Філіпу Іспанскаму» — такія рэчы кароль заўсёды ўважліва чытае! І тут жа піша казку «Цукровы трыснёг» — і таксама не проста так. У Францыю цукар паступае з Кубы і з Паўднёвай Амерыкі, або з іспанскіх калоній. Ну не можа быць, каб кароль не заўважыў…

І ён заўважыў. У 1701 годзе Шарль Пэро зноў уваходзіць у Акадэмію — як яе старшыня! А кароль даў указанні дапрацаваць «Усеагульны слоўнік французскай мовы» і настойвае на стварэнні зборы правілаў французскай граматыкі.

Пэро ўсяго гэтага зрабіць ужо не зможа — і разумее гэта. Ён раздае даручэнні, а сам пачынае пісаць мемуары. О, гэта найважнейшыя мемуары! Яны адлюстроўваюць дзесяцігоддзі французскай палітыкі, апяюць веліч караля, у іх ён расказа пра сваю сапраўдную ролю і адкажа ворагам на ўсе тыя даносы і паклёпніцкія выдумкі, якімі яны так шчодра адарылі яго…

Увогуле, гісторыкі, вядома, прачытаюць яго мемуары. А казкі? Ды ён і сам не думаў, што ў гісторыі застанецца як вялікі казачнік. Ды і хто б на яго месцы такое падумаў?

# Гасцінец

***Не жыў бы ў сэрцы сум па Беларусі —
я Украіну б родначю назваў.***

***Гэтыя радкі напісаныя мною ў Львове, дзе я ў 1964—1967 гадах вучыўся на вайсковага журналіста і дзе выспяваў на беларуса. Верш «Песня Украіне» з «Кастроў Купалля» перакладалі Іван Гнацюк, Раман Лубкіўскі і — Мая Львовіч:***

***Не жив би в серці сум за Білоруссю —
я Україну б рідною назвав.***

***Вось ужо больш паўстагоддзя жыве ў мяне сум па Украіне. Але пра нашую роднасць і ўзаемную любасць штораз нагадваюць мае сябры. І сёння я зноў сплочваю свой доўг перад імі...***

*Сяргей ПАНІЗНІК*



Дмытро ПАЎЛЫЧКА

## Дзікія грушы

*Грушы-дзічкі ў лясах на Валыні
Па вясне так шалёна цвітуць.
Там нектар з густакветкавай плыні
Пчолы ў соты глухія кладуць.*

*Пры даліне напружылі вушы
Арабіна, ляшчына ў кустах.
І грудочак ля кожнае грушы
Неба просіць, каб крыж тут паўстаў.*

*Пахаваная не ў дамавіне —
У карэннях стральцовая раць.
На валынскай маёй Украіне
Грушы-дзічкі, як свечкі, гараць.*

## Закрэсленыя радкі

*Нібы калючы дрот у крэпасці — радкі,
Закрэсленыя думкі дарагія.
Тут след майго пяра, бязлітаснай рукі,
Нібыта выпраўляў свае грахі я.*

*Я іх перапішу і перакрэслю зноў,
Іх змест занадта сумны, у дакоры.
Вось так, змяняючы нянавісць на любоў,
Я захлынаюся ў пранізлівай пакоры.*

*Скрыжальныя радкі — нібы калючы дрот,
Я сам яго ірваў, шаптаў: «Мая замова».
Шкада ўсяго, што чалавечы страціў род,
Але шкада найбольш загубленага слова.*

## Чарэшня

*Зацвілі чарэшні, вішні
Па-над Лючкай на мяжы.
Быў і я там пры Ўсявышнім
З літарамі на крыжы.*

*Я калісь не бачыў свету,
Я не чуў панамароў,
Я агнямі ЗАПАВЕТУ
Пра́жыў свет, гукаў з муроў.*

*А цяпер зышоў я з неба
Да сівенькага вала.
І мне ўсё, што сёння трэба —
Каб чарэшня зацвіла.*

## Дождж

*Залева. У хлюпах тратуары
Ускрылілі і пыл, і цвіль.
Чырвоныя ўсплакнулі фары —
І пасівеў аўтамабіль.*

*Нібы люстэрачка, на плоце
Засерабрыўся пырскаў крос,
І танцавала на капоце
Як дзеўка, бліскаўка з нябёс.*

*Я супыніўся. Небу — страта,
І раптам, перапалохам, цьма,
І дождж прашыў мяне, як праўда,
Калі ратунку ўжо няма.*

## Песня

*Лістота з явара спадае,
За небакраем зноў зіма...
Любоў, гукніся, маладая!
Але каханачкі няма.*

*Ты азавіся, і суквецце
Гадоў у промнях задрыжыць.
Тут не нажыўся на планеце,
А ўжо да іншай шлях ляжыць.*

*І не шкада мне больш нічога —
Зямлю захутала імгла,
А жаль кахання маладога,
Яго бяссмертнага цяпла.*

## Стапчаціў

*Сады ў маім Стапчаціве яшчэ гудуць,
Яшчэ змяняюцца ў хацінах пакаленні,
Хоць тут гісторыя цякла, як злая ртуць —
Не знішчаны маёй духоўнасці карэнні.*

*Я нарадзіўся тут і ўжо не адвяду
За небакрай чужы майго жыцця кардоны.
Заснуць бы пры бацьках, асеўшы ў лебяду,
І слухаць па вясне бажніцаў перазвоны.*

*О не, я не прыму паўторнага жыцця,
Але калі і ўстаць, то глянуць на даліну —
Спаверыцца: ідзе Стапчацава дзіця
Маліцца ў родны храм за вільну Украіну.*



Галіна КІРПА

***

*Душа цяпер — як плыткі гон рачулкі.
А прыпамін — нібыта міф былы.
Ніхто не прыйдзе і не будзе гулкі,
хто й скрыпне, то як тыя капылы.*

*Душа бы нітка: тонкая — ірвецца.
І спогадзь наша — бурбалкай на дне.
Ніхто не гляне, з ласкай не ўсміхнецца,
хіба што кветка выглядкаю ў сне.*

*Душа — як лета бабіна — згарае.
Ёй поле — як сумётная гурма.
У вочы адзінота зазірае —
й парожыка парожняга няма.*

***

*Як вечарок мне пераджыць спрасоння?
Як перабыць мне вецер і слату?
Я — кветка маку.
Можна так, што сёння
у вас пад вокнамі
бялява пацвіту?
Я доўга не ўтрываю красавання —
не маю раю, дзе не сад — чахол...
Я — кветка маку.
Мо і да змяркання
паспею ўквецець
ачужэлы дол.*

***

*Вось і лісточак з абтрэсенай грушы
пайшоў на той свет.
Сад акалелы душу запарушыў
і мерзне, як той парапет.*

*Кожны загляне — і вецер, і воран,
нават нячысты дух...
Змрочная моўчадзь... У стылай прасторы
душа мая — зыбкі пух.*

*Хай і яна прысядае ў галінках,
дзе вецер, дзе воран сеў.
Дайце сустоіцца, дайце пахлімкаць
адменнай, такой, як не ўсе...*

*Усяго-усягусенькі дзень
Жыццё — усяго-усягусенькі дзень,
у якім:
мама й тата —
імгненная стрэча
на свеце дзяцінства,
сама я —
непрачытаная кніжка,
маё дзіця —
казюлька
ў наўпроцьветравой дарозе,
каханы —
рэха
ў забытай Богам крыніцы.*

***

*Удосталь дажджоў.
Аж замнога нягоды,
дакукі калюжаў,
маркоты слаты.
А нашае неба чакае пагоды?
Адсунуць вятры каламуць нематы?*

*Калі ўжо абудзіць адліга даліну?
Калі дно Дзясны зноў асвецяць вякі?
А то новы вырай спаўе Украіну
і — жах! — не пазнаюць яе жаўрукі.*

## А мы хто?

*— Я украінец, —
лепятнуў заяц.
— І я ўшчэ ўкраінец, —
пралялаў воўк.
— А я ўжо украінец, —
прагугнеў каларадскі жук
дый гам-гам
бульбяны лісточак,
на якім сядзеў,
і стаў надалей каларадзіць.
— А мы хто? А мы хто? —
бубніць розная сматкаўня, і пташня,
усяляка дудзенне, загуменне,
— А мы за кан-са-лі-да-цы-ю!!!*



Аксана СЕНАТОВІЧ

## Чаканне ў Зэльве

*У зеллі Зэльвы нібы ў храме,
Усё ў чаканні — уздыхнуць,
ідуць зубры па-за дварамі,
за плотам яблыні цвітуць.*

*У зельнай Зэльве ціша стыне,
душа адкрыта для дабра.
Мы тут удвох, а гаспадыня
пайшла ваду браць да Дняпра.*

*Пайшла пад вечар, крок люляе:
глядзіць на зоры з-пад рукі,
а можа, з небам размаўляе
над плёсам вечнае ракі.*

*Тут мы, чакаючы, маўчалі,
і ў цішыні спазналі ўраз:
усё дaслоўна прачыталі,
што на абліччах ёсць у нас.*

*Стаялі, нібы дзеці, ў скрусе.
Пяршыла, і гарчэў камок...
Яна аб'явіцца!.. Данусе
хавае слёзы ў рукавок.*

*Пераклаў з украінскай
Сяргей Панізнік.*

***Наталка Пазняк нарадзілася ў 1972 годзе на Ровеншчыне, дзе ў мястэчку Нобіль Зарэчынскага раёна нарадзіўся ў свой час беларускі паэт Сяргей Грахоўскі.***
***Наталка прызнавалася, што на прырэччы Гарыні чутно было толькі водгулле старажытнай Тураўскай Зямлі. Украінскую мову яна спасцігла толькі ў школе.***
***На яе творчым майдане — пераклады ангельскіх аўтараў, вершы Максіма Багдановіча, Віктара Шведа, Міхася Скоблы... Ёсць і мае, створаныя пасля наведвання Полацка, мясцінаў Наталлі Арсенневай пад Дрысаю. Мае пераклады ўкраінскіх тэкстаў Наталкі Пазняк былі надрукаваныя ў 2004 годзе. І вось... паэтка перадала мне свае два вершы, напісаныя па-беларуску, — «гарынськую аўтэнтыку» кіяўлянкі.***

*Сяргей ПАНІЗНІК*



Наталка ПАЗНЯК

## Захад Сонца

*Як яблык чырвоны, скацілася сонца за мора.
Стамілася, пэўна: сарвалася, ўпала на дно.
І сполах у сэрцы —
здалося мне сонейка хворым.
Мо заўтра не здолее выйсці на неба яно?*

*Задумліва выплыла сціплая
лекарка-поўня,
Усцішыла раны на моры сваім серабром.
А хвалі хрыпелі, быццам нейкія
дзіўныя коні,
І зоркі лавілі,
што з неба ляцелі дажджом.*

*Тых зорачак дробных скацілася
з неба нямала:
Спяшаліся сонца праведаць,
ці знічкай у хвалях растаць.
А я кожнай зорцы жаданне шаптала,
шаптала —
Каб раніцай сонца знайшло ў сябе сілы
паўстаць.*

***

*Ты застаўся фантомам
Там, дзе сад не цвіце,
У прыдуманым доме,
На забытай вярсце.
Толькі адрас застаўся:
Тонкі водар вясны...
Незакончана казка,
Недасніліся сны.*

*Сёння вешчая поўня
Ціха зорыць на нас.
Лёс ляжыць на далонях —
Тонкіх рысаў наказ.*

*Ціха падаюць зоры...
Я спаліла масты.
Дагарае мне ўчора:
Там — праменьчыкам — ты.*

## Літаратурная прэмія TikTok

TikTok заснаваў узнагароду для сегмента Вялікабрытаніі ды Ірландыі, каб «адзначыць творы, аўтараў, кантэнт і стваральнікаў «BookTok».

Прэмія TikTok Book Awards, за ўладальнікаў якой галасавацьмуць карыстальнікі сацыяльнай сеткі, будзе падзелена на дзевяць катэгорый, у тым ліку "Лепшая кніга года", «Аўтар года BookTok» і «Стваральнік года BookTok». Асобныя катэгорыі прадугледжаны для кнігарняў і выдавецтваў.

На падставе звестак BookTok і інфармацыі выдаўцоў ужо сфарміраваны доўгі спіс намінантаў. Затым з ім будзе працаваць «судзейная» калегія, у якую ўваходзяць папулярныя эксперты. Галасаванне за лаўрэатаў прэміі пачалося ў ліпені, а ў жніўні, паводле інфармацыі The Bookseller, іх абвесцяць.

Джэймс Стафард, генеральны аперацыйны мэнэджар TikTok у Вялікабрытаніі ды Паўночных краінах, адзначыў: «Кожны дзень мільярды людзей прыходзяць у TikTok, каб падзяліцца рэкамендацыямі, адкрыць для сябе новыя кнігі і з любоўю прыхінуцца да літаратуры. Мы бачылі ўплыў супольнасці #BookTok, калі справа даходзіць да продажу кніг і нават прыцягнення новых кліентаў у мясцовыя кнігарні. Літпрэмія TikTok — гэта не толькі "лепшыя новыя кнігі", яна і дзеля таго, каб адзначыць любоў да чытання, якую мы бачым у TikTok».

## Кніга і турэмны тэрмін

Ва Украіне прапануюць скарачаць тэрміны зняволення за… чытанне кніг.

У Вярхоўную Раду ўнесены законапраект № 9477, паводле якога вязні змогуць скарачаць тэрмін зняволення за прачытаныя кнігі. Ім мінусуюць тры дні на кожную кнігу. У праекце Закона прапануецца скараціць тэрмін пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі, калі асуджаныя «сталі на шлях выпраўлення праз самаразвіццё». Дзеля гэтага зняволены павінен прачытаць кнігі са спісу, зацверджанага Мінюстам Украіны. Спіс літаратуры павінен складацца з твораў, якія «садзейнічаюць фармаванню правільных духоўна-маральных каштоўнасцяў, а таксама мэтам, накіраваным на выпраўленне».

Згодна з законапраектам, гэты працэс будзе рэгулявацца спецыяльна створанай электроннай сістэмай. У ім зняволеныя будуць здаваць адмысловы экзамен, каб пацвердзіць, што яны прачыталі тыя кнігі. Аднак дзеля такога змякчэння будзе ліміт — не больш за 10 кніг у год (або 30 дзён тэрміну зняволення ў год).

Цяпер законапраект разглядаецца ў камітэце Вярхоўнай Рады па праваахоўнай дзейнасці. Пасля гэтага дакумент будзе ўнесены ў сесійную залу для галасавання.

Літаратура як інструмент права і як сродак выпраўлення асуджаных выкарыстоўвалася ва Украіне і раней. Такія справы неаднаразова адбываліся ў судзе Адэсы. Напрыклад, у кастрычніку 2021 года мясцовы суддзя Аляксандр Гарскі асудзіў двух маладых людзей, вінаватых у крадзяжы, да ўмоўнага зняволення і абавязаў іх чытаць творы Марка Твэна, Джэка Лондана і Тараса Шаўчэнкі. Той жа суддзя праз месяц абавязаў яшчэ аднаго злодзея прачытаць тры раманы Льва Талстога і паэму Івана Франко «Строфы».

## Кніга Толкіена за тысячы даляраў

Адно з першых выданняў «Хобіта» брытанскага пісьменніка Джона Толкіна было прададзена за 10 тысяч фунтаў стэрлінгаў (каля 13 500 даляраў). Пра гэта паведаміла The Guardian.

Адзін з першых 1500 асобнікаў, надрукаваных у 1937 годзе, быў знойдзены ў падсобным пакоі крамы Cancer Research Вялікабрытаніі. Там ёсць чорна-белыя ілюстрацыі Толкіна.

Кніга была выстаўлена на продаж на eBay, дзе і сабрала £10 099,50. Іх патрацяць на дабрачыннасць.

«Я адгарнуў першую старонку і ўбачыў, што гэта першае выданне, і падумаў, што варта адправіць яго камандзе eBay. Я думаў, што калі нам пашанцуе, мы атрымаем максімум 500 фунтаў стэрлінгаў, таму не мог паверыць, калі праз некалькі месяцаў кнігу прадалі больш чым за 10 000 фунтаў стэрлінгаў», — сказаў кіраўнік крамы Адам Карслі.

Раней у ЗША на таргі выставілі ліст Джона Толкіна. У ім пісьменнік параўноўваў сябе з хобітам і распавёў пра працу над раманам «Уладар пярсцёнкаў». Ліст прадалі на аўкцыёне за 20 500 даляраў.

## Англамоўныя бэстсэлеры паловы 2023 года

Нядаўна быў агучаны спіс актуальных бэстсэлераў за першае паўгоддзе 2023 года ў англамоўных краінах. Яго апублікавала маніторынгавая кампанія Circana BookScan. У ЗША бэстсэлэрам сталі мемуары прынца Гары «Spare», напісаныя ў суаўтарстве з амерыканскім пісьменнікам Дж.Р.Морынгерам. Было прададзена амаль 1,2 мільёна асобнікаў.

Сярод аўтараў літбэстсэлераў лідэрам стала амерыканская пісьменніца Колін Гувэр. Некалькі яе раманаў увайшлі ў рэйтынг 20 самых папулярных кніг у намінацыі «Літаратура для дарослых»: «Пачынаецца з нас», «Заканчваецца з намі», «Пачварнае каханне», «Косці сэрца», «Ніколі ніколі» і «Напаміны пра яго». У 2022 годзе тры раманы Гувэр узначалілі спіс бэстсэлераў ЗША.

Значную ролю ў фармаванні спісу адыграў кніжны TikTok. Дзякуючы папулярнасці ў сацыяльнай сетцы ў рэйтынг бэстсэлераў увайшлі «Урокі хіміі» Боні Гармус, «Шчаслівае месца» Эмілі Генры, «Сямёра мужчын» Эвелін Гюга, Тэйлар Джэнкінс Рыд і яе кніга «Дэйзі Джонс і шасцёра», якая ўвайшла ў спіс дзякуючы тэлевізійнай адаптацыі на Amazon Prime у сакавіку 2023 года. У топ-20 англамоўных бэстсэлераў таксама трапілі наступныя мастацкія кнігі: «Двор шыпоў і ружаў» Сары Джанэт Маас, «Рэчы, якія мы ніколі не пераадольвалі» Люсі Скур, «Маўклівы пацыент» Алекса Міхаэлідзіса.

## Новыя кавалеры ордэна Ганаровага легіёна

Аксана Забужка і Алег Сянцоў узнагароджаны французскімі ордэнамі Ганаровага легіёна. Пра гэта паведаміла амбасада Францыі ва Украіне ў Twitter.



Летась украінская паэтка Ліна Кастэнка была таксама ўзнагароджана ордэнам Ганаровага легіёна.

Ордэн Ганаровага легіёна — вышэйшая ўзнагарода Францыі, якая ўручаецца Прэзідэнтам рэспублікі за ваенныя або грамадзянскія заслугі (найвышэйшая ўзнагарода за заслугі ў грамадзянскай сферы).

## Каралева, літпрэмія і вышыванка

Каралева Іспаніі Летыцыя на 45-е ўручэнне літаратурных прэмій El Barco De Vapor і Gran Angular за 2023 год апранула вышыванку ад украінскай фірмы Etnodim.

Пра гэта паведаміла прэсавая служба Каралеўскага палаца Іспаніі. Таксама на цырымоніі ў палацы Сарсуэла прысутнічалі прэзідэнт SM Group Хасэ Мануэль Сідад, які адказвае за абедзве ўзнагароды, і дырэктар фонда SM Марыя Тэрэза Орціс.

У 2023 годзе лаўрэатам дзіцячай прэміі «Параход» стала Моніка Радрыгес за кнігу «Смялей за Напалеона» (Más braver than Napoleon), а моладзевай прэміі «Шырокі вугал» — Патрысія Гарсія Роха за кнігу «Лета, калі прыйшлі ваўкі» (El verano en que llegaron los lobos).

Прэмія SM — самая значная ў галіне дзіцячай і юнацкай літаратуры Іспаніі. Яна выбірае намінантаў з творамі, якія закранаюць важныя для моладзі каштоўнасці: мужнасць, сяброўства або стойкасць.

Грашовы памер кожнай з узнагарод складае 35 000 еўра. З 1978 года Фонд SM падтрымлівае чытанне як складнік адукацыі і развіцця дзяцей і моладзі. Акрамя таго, Фонд працуе над якасцю і роўнасцю ў адукацыі дзяцей у 10 краінах Лацінскай Амерыкі.



Фота прэсслужбы Каралеўскага палаца Іспаніі

Каралева Летыцыя не ўпершыню з'яўляецца на публіцы ва ўкраінскай вышыванцы. У прыватнасці, 3 сакавіка 2022 года яна наведала адзін з сацыяльных праектаў Фонда Mutua Madrileña ў вышыванцы. Так каралева апранулася ў знак падтрымкі ўкраінскага народа. Вышывала тую кашулю прыкарпатчанка Вольга Салавей.

## Кнігі-гіганты

Такія выданні здзіўляюць сваімі памерамі. Некаторыя з іх, ведама, створаныя ў Сярэднявеччы, калі людзі мелі іншы погляд на свет і на кнігі ў прыватнасці. І захапленне гіганцкімі кнігамі працягваецца і да нашых дзён. Некаторыя асабліва амбіцыйныя рамеснікі сучаснасці прынялі выклік сярэднявечных майстроў.



Геаграфічны атлас Кленке з'яўляецца самай вялікай у свеце кнігай. Рукапіс мае вышыню 1,75 метра і 1,9 метра ў развароце. Важыць 320 кг: каб падняць яго, трэба прыкладна 6 чалавек. Цяпер гіганцкі атлас захоўваецца ў Брытанскім музеі, а ў 2010 годзе ўпершыню быў выстаўлены на ўсеагульны агляд. Атлас змяшчае старадаўнія падрабязныя карты (усяго іх — 39). Паводле гістарычных звестак, гіганцкая кніга была падарункам галандскага купца Ёхансана Кленке каралю Карлу II.

«Гіганцкі кодэкс» («Codex Gigas») — адзін з найбуйнейшых рукапісаў, якія захаваліся да нашага часу, — быў створаны ў пачатку XIII стагоддзя ў манастыры чэшскага горада Подлажыце. Манускрыпт напісаны на латыні. Паводле легенды, «Codex Gigas» быў створаны манахам пры дапамозе д'ябла. Манах здзейсніў сур'ёзнае злачынства і ў пакаранне за грэх абяцаў пробашчу за адну ноч напісаць кнігу пра ўсе чалавечыя веды свету. Аднак наступала ўжо поўнач, і ён зразумеў, што не паспее закончыць рукапіс, і прадаў душу д'яблу ў абмен на дапамогу. Пасля напісання кніга мела 640 старонак, аднак да нашага часу захаваліся толькі 624. Вага рукапіса 75 кг, вышыня 915 см, шырыня 508 см, таўшчыня 22 см. У дадзены момант твор знаходзіцца ў Каралеўскай Шведскай бібліятэцы.

## Чытанне дзецям услых — карыснае

Амерыканская акадэмія педыятрыі абвесціла новыя метады, паводле якіх дактарам рэкамендуюць гаварыць з бацькамі не толькі пра карысць здаровага харчавання і прафілактыкі захворванняў, але і пра тое, што чытанне дзецям услых і размовы з дзецьмі з першых дзён жыцця малога карысныя для развіцця.

Гэтыя меры былі прынятыя ў выніку сумеснай ініцыятывы Фонда Клінтана і праграмы «Next Generation», накіраванай на скарачэнне «слоўнага разрыву» і павышэнне якасці жыцця дзяцей. Даследаванне паказала, што 5-гадовыя дзеці з сем'яў, якія знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы, чуюць на 30 мільёнаў слоў менш у параўнанні з малымі са шчаслівых сем'яў.

Улічваўся і той факт, што колькасць слоў, пачутая ад бацькоў, уплывае на слоўнікавы запас дзяцей, што ў далейшым уплывае на поспехі ў вучобе.

Педыятры ў ЗША аглядаюць за год каля 16 мільёнаў дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў. Менавіта таму інфармаванне бацькоў праз дактароў дазволіць дасягнуць добрых вынікаў у прапагандзе чытання дзецям услых.

Даследаванне таксама паказала, што дзеці, якім бацькі чыталі кожны дзень, пасля таго, як самі былі здольныя чытаць, шмат часу праводзілі з кнігай.

У сувязі з гэтым прэзідэнт ЗША выступіў за падтрымку гэтай ініцыятывы і адзначыў, што ў бліжэйшы час неабходна ўнесці змены ў адукацыйныя праграмы для дзяцей дашкольнага ўзросту.